наша свабода

№18(105) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 ЛЮТАГА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.5



Работа «зэков»

# «Зубр» борется за волю

## В Беларуси появилось новое, оппозиционное властям, движение «Зубр»

Наталья РАДИНА

**В последнее время всюду, где только возможно, пестрит надпись «Зубр». Столицу, областные центры и районные города заполонили наклейки революционного содержания с логотипом, где изображен «хозяин» Беловежской пущи. «Зубр» заявил о себе и как издатель: одноименное издательство выпустило книгу Джина Шарпа «От диктатуры к демократии». У многих появилось ощущение, что «Зубр» — новое политическое движение. Вот только его целей и задач никто не знал. Наконец, «Зубр» решил открыться, и 13 февраля его организаторы созвали первую пресс-конференцию.**

Приглашение на нее газеты получали исключительно по электронной почте. Собрав журналистов в определенном месте, «зубры» повели людей в сквер, где стоит памятник юному партизану Марату Казею, который увековечен в бронзе с гранатой в руке. Там неизвестный молодой человек сообщил журналистам цели и задачи движения «Зубр»:

«Злодеяния диктаторского режима всем вам хорошо известны - это похищения людей, давление на журналистов, уничтожение языка и культуры народа Беларуси, пытки и издевательства над заключенными. Миллионы людей доведены до нищеты.

*Мы отрицаем насилие. Наш путь – ненасильственное сопротивление диктатуре. Сотни ЗУБРОВ – патриотов Беларуси – начали эту работу. Сопротивление режиму будет нарастать с каждым днем. Диктатура развалится! Будем вместе, и в этом году Беларусь станет свободной!»*

В его краткой речи прозвучало объяснение: почему именно зубр? Все просто - существование этого исполина под угрозой. Зубр, как и человек, не может жить в неволе. Его естественная среда обитания – лес, естественная условие жизни человека – свобода.

Похоже, что "Зубр" возник по образцу известной югославской радикал-демократической организации «Отпор», которая взвалил на себя всю тяжесть организации уличных акций в Сербии, когда был свергнут Слободан Милошевич. Время покажет - на что способен наш "Зубр".

Движение «Зубр» интересуется не только политикой. Интересуют его и экологические проблемы страны: *«Мы обращаем ваше внимание и на то, что диктатура Лукашенко совершает преступление против природы. Подручные диктатора бесконтрольно уничтожают наше богатство – леса Беларуси. В Беловежской и Налибокской пущах, Браславском и других заповедниках ведется бесконтрольная вырубка деревьев. Цель – самым простым способом набить свои карманы. Лукашенко стремится уничтожить пущи Беларуси – естественные легкие страны. Он хочет превратить Беларусь в радиационную пустыню. Поэтому мы называем себя экологическое сопротивление «Зубр»».*

Против четверых студентов, членов «Зубра», по словам представителя организации, уже возбуждены уголовные дела. Причина – надписи «Зубр» на стенах домов. А в одном из столичных ВУЗов, по слухам, декан престижного факультета категорически предупредил: «Кто «зубр» – тот на этом факультете не жилец». Так что «зубрам», видимо, до поры до времени придется скрываться в «партизанской» пуще. Как говорил белорусский классик Якуб Колас, «кто в лесу не партизан, тот в доме – не хозяин». ■



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Компания IBM помогала Гитлеру

Американский писатель Эдвин Блэк публикует книгу под названием «*IBM и Холокост*», в которой рассказывается об отношениях между руководством американской компании IBM и властями нацистской Германии в 1930-х годах, сообщает британская газета *The Sunday Times*. Книга основана на большом количестве разнообразных документов, которые Блэк собирал в течение длительного времени.

Как утверждает Блэк, после прихода фашистов к власти глава и основатель IBM Томас Уотсон-старший тесно сотрудничал с гитлеровской администрацией. Гитлер, задавшись целью уничтожить всех евреев, по крайней мере в Германии, захотел предварительно провести их учет. Для этого потребовались автоматы, позволявшие с помощью карточек осуществлять такие операции – поставщиком подобных устройств для режима Третьего рейха и стала компания IBM.

Уотсон, «выражавший восхищение» Гитлером, за свои заслуги перед Германией был награжден фашистами «почетным крестом немецкого орла со звездой», пишет *The Sunday Times*. Германское руководство считало главу IBM «другом», однако, по предположению Блэка, Уотсона интересовала прежде всего прибыль, а не идеология.

Потебность Германии в технологиях учета и классификации была настолько велика, что в стране была основана своя технологическая компания, которую профинансировала IBM. В своей книге Блэк, сын польских евреев, избежавших смерти во время Холокоста, даже делает предположение, что исследования по усовершенствованию учетных машин, предназначенных для переписи евреев в концлагерях, могли впоследствии дать толчок к созданию первых ЭВМ. ■



Адольф Гитлер и Томас Уотсон (второй слева) во время личной встречи

стар.7

## Жыццё кампазітара Міколы Равенскага

Чалавек, які напісаў музыку да духоўнага гімна беларусаў "Магутны Божа", пражыў вельмі цяжкое жыццё

**Прабачэнне**

Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ прыносіць прабачэнні народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву за недакладную інфармацыю, якая патрапіла ў публікацыю «Арыштаваныя Чыгір і Быкаў» у мінулым нумары. Затрыманы міліцыяй малады чалавек з прозвішчам Васіль Быкаў усяго толькі цёзка пісьменніка, а не яго пляменнік, як памылкова паведаміў аўтар.

## НАВІНЫ

■ **Летась па правінах уладальнікаў легкавых аўтамабіляў і матацыклаў у Мінскай вобласці адбылося 786 здарэнняў.** У іх 218 чалавек загінулі і 910 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Акрамя таго, супрацоўнікамі ДАІ ў 2001 на Міншчыне затрымана амаль 5 тысячаў кіроўцаў, што селі за стырно нападпітку.

■ **У параўнанні з 1999 годам аб'ём выпуску піва ў Беларусі скараціўся летась на 13%. Вытворчыя магутнасці канцэрна «Белдзяржхарчпрам» наогул былі задзейнічаныя на 67%.** Памяншэнне пітнога вырабніцтва тлумачыцца падзеннем пакупніцкай здольнасці насельніцтва і ростам літражу паставак піва расійскага.

■ **Мінскі трактарны завод паставіць сёлета кожнай вобласці па 300 трактараў.** Пастаўкі будуць ажыццяўляцца на ўмовах лізінгу доўгатэрміновым крэдытам пад гарантыі аблвыканкамаў. Аднак, нягледзячы на тое, што парк трактараў зношаны больш як на палову і хутка пасаўная, адпаведныя дамовы з МТЗ заключылі пакуль толькі гаспадаркі Магілёўшчыны.

■ **Гэтай вясной на рэках Гомельшчыны не выключаная досыць моцная паводка.** Адмысловыя назіранні сведчаць пра небяспеку паўтарэння паводкі леташняй. Узровень вады ў 1,5 раза большы за ардынар. Яшчэ большую небяспеку паводкі павялічыў снегапад, што прайшоў на мінулым тыдні.

■ **80 боепрыпасаў часоў Другой сусветнай вайны і 25 кілаграмаў патронаў з 7 па 10 лютага знойдзена на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці.** Частку гэтага знайшлі рамонтнікі падчас правядзення работ па ачыстцы абводнага канала каля Паўночнай брамы крэпасці. Знаходкі былі вывезеныя за горад і абясшкоджаныя.

■ **12 лютага супрацоўнікамі ГУУС Мінгарвыканкама затрыманыя яшчэ два чалавекі, што падазраюцца ў хакерстве.** У праваахоўных органах не выключаюць, што гэта якраз арганізатары буйной хакерскай групоўкі, два дзесяткі чалавек якой былі арыштаваныя міліцыяй тыдзень таму. Гэтыя хакеры рабавалі замежныя фірмы.

■ **Рэстаўрацыя Камянецкай вежы - збудавання 13 стагоддзя, якая цяпер тут робіцца, будзе скончана да верасня.** Зараз ужо цалкам выканана рэстаўрацыя яе фасаду. Пры гэтым доўгі час стаяўшая пабеленай, вежы вернуты аўтэнтычны чырвоны колер.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1220

## Імпарт беларусізуецца

**Марат ГАРАВЫ**

Міністэрства замежных справаў падтрымала прапанову Таварыства беларускай мовы аб выкарыстанні беларускай мовы ў афармленні тавараў, што імпартуюцца ў краіну. У прыватнасці, МЗС звярнулася ў міністэрства адукацыі з ініцыятывай унесці ў закон «Аб мовах» змяненні, якія абавязвалі б змяшчаць на таварах, што імпартуюцца ў Беларусь, надпісы і тлумачэнні на беларускай і рускай мовах.

Каменціруючы гэтае рашэнне, кіраўнік справаў ТБМ Сяргей Кручкоў сказаў, што на працягу 2000 года ТБМ звярталася з падобнымі прапановамі да ўсіх пасольстваў замежных дзяржаваў, акрэдытаваных у Мінску, і «найбольш спрыяльны адказ, які выклікаў адпаведныя дзеянні, аб'яднанне атрымала з пасольства Германіі». Паводле ягоных словаў, нямецкія дыпламаты прапанавалі Гандлёва-прамысловай палаце ФРГ рэкамендаваць сваім таваравытворцам пры афармленні і ўпакоўцы тавараў, што экспартуюцца ў Беларусь, выкарыстоўваць як рускую, гэтак і беларускую мовы. «Адной з першых стала выкарыстоўваць абедзве дзяржаўныя мовы, прынятыя ў Беларусі, нямецкая фірма «*May Milch Gmbx & Co. KG*» з горада Эрфтштата», — сказаў кіраўнік справаў ТБМ. Як ён паведаміў, пасольства Польшчы таксама падтрымала прапанову ТБМ, аднак у сваім лісце звярнула ўвагу на тое, што пытанне ў большай ступені з'яўляецца справай дзяржаўных органаў Беларусі, якія не вылучалі падобныя прапановы перад замежнымі вытворцамі тавараў. ■

БелаПАН

## Віцебск без школаў

**Ірына МАРЫСКІНА**

12 лютага ў Віцебску ў сувязі з эпідэміяй грыпу да канца тыдня закрыты ўсе школы — агульнаадукацыйныя, дзіцячыя спартыўныя, музычныя, пазашкольнай адукацыі і школы мастацтваў.

У параўнанні з мінулым годам эпідэмія прыйшла ў Віцебск са спазненнем на адзін дзень і захоплівае штодзённа на сто-дзвесце чалавек меней. Больш лёгкі ход хваробы можна звязаць з правядзеннем вакцынацыі: прышчэплены 18.894 чалавекі, у тым ліку каля пяці тысяч дзяцей. Аднак гэтых мер аказалася недастаткова, каб прадухіліць эпідэмію. І з 5 лютага 2001 года пастановай галоўнага ўрача Віцебскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі былі ўведзены каранцінныя мерапрыемствы ў сярэдніх навучальных установах, а таксама накладзена абмежаванне на публічныя мерапрыемствы для дзяцей. ■

БелаПАН

## За любоўю — на плошчу Свабоды

**Кірэй МАНУЙЛА**

Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне маладзёжнай акцыі «Любові! Свабоды! Пераменаў!», але ў іншым месцы, чымсьці таго вымагалі ейныя арганізатары. Нягледзячы на гэта, яны заяўляюць, што акцыя ўсё адно будзе наладжаная, як і планавалася загадзя, на плошчы Свабоды ў 17.00.

Распачнецца ўсё на Дзень святога Валянціна 14 лютага ад самага ранку, калі адбудзецца традыцыйны віншавальны абыход 18 замежных амбасадаў пад назвай «Беларусь – у Еўропу!». Гэтаксама сябры маладзёжнай апазіцыйнай кааліцыі «Пераменаў!» прыйдуць павіншаваць працоўных на акцыю прафсаюзаў «Заробак – на ўзровень цэнаў!»

Галоўнае мерапрыемства Дня любові пройдзе на плошчы Свабоды. Арганізатары абяцаюць мноства сюрпрызаў і спецэфекты. Застаецца спадзявацца, што свята не будзе сапсаванае міліцыяй. ■

## Моладзь і міліцыя рыхтуюцца да Дня закаханых

У Мінску затрымліваюць моладзь за распаўсюджванне інфармацыі пра традыцыйную маладзёжную акцыю, прысвечаную Дню святога Валянціна 14 лютага. Вось што паведаміў «Вясне» Міхась Чыжык: «Падтрымліваючы ініцыятыву роднага фронту (маладога), мы самаахвярна ляпілі ўлёткі «Любові! Свабоды! Пераменаў! У ноч з 10-га на 11-га лютага па вул. Прытыцкага (са мной быў мой сябар Цімох Атрашчанкаў, які займаўся той жа справай). Ляпілі мы па прыпынках. Дык вось, усё здарылася на вуліцы Бельскага, дзе мы не заўважылі чарговую патрульную самаходку. Яна спынілася, і адтуль выпаўзлі «ахоўнікі правапарадку ў плямістай форме». Доўга цягнулася пагоня, якая скончылася няўдала для мяне з Цімохам. Хачу заўважыць, што падчас затрымання супрацоўнікі міліцыі гучна ды «смачна» лаяліся па-расейску ды пагражалі збіццём, але, дзякуй Богу, да апошняга не дайшло. Міліцыянты папрасілі нас сабраць раскіданыя па зямлі ўлёткі. Нас прыцягнулі ў Фрунзенскі РУУС, дзе склалі пратаколы».

А 8 лютага ў 22.00 у горадзе Бабруйску былі затрыманыя 22-гадовы Дзяніс Шэйко і 17-гадовы Валеры Мацкевіч. Прадстаўнікі Маладога Фронту распаўсюджвалі налепкі «Акцыя Любові» і «Зубр».

Пры затрыманні на В.Мацкевіча быў складзены пратакол вынятцця налепак. Хлопцаў пратрымалі дзве гадзіны і адпусцілі. Пасля В. Мацкевіча выклікалі 12 лютага ў Ленінскі РАУС Бабруйска разам з маці. Яна паведаміла прадстаўніку ПЦ «Вясна», што матэрыялы адміністратыўнай справы яе сына накіраваныя ў камісію па справах непаўнагадовых па месцы жыхарства. ■

Праваабарончы цэнтр «Вясна»

**ФОТАФАКТ**

Фота IREX/ProMedia

Ідзе вясна. Вучэбная трэніроўка ва ўнутраных войсках

## Кричевская охота

**Николай МАТОРЕНКО**

Дважды в течение недели силовые структуры Кричева перехватывали тиражи негосударственной газеты «Вольны горад». Все дело в том, что в последнее время издание набрало популярность среди населения.

Руки для преследования независимой газеты местным силовикам были развязаны после посещения Кричева областным вертикальщиком Борисом Батурой и полуторачасового совещания в исполкоме. Щупальцы КГБ и спецмилиции протянулись даже в российский город Смоленск, где печатался «ВГ». По мнению сотрудников газеты, их телефоны постоянно прослушивались, за ними шла непрерывная слежка.

В данный момент проводится расследование. Редактору «Вольнага горада» Сергею Неровному инкриминируется незаконное изготовление и распространение печатной продукции и незаконное занятие предпринимательской деятельностью. Он отказался давать какие-либо показания в РОВД до суда в знак протеста против незаконных задержаний курьеров и в своем заявлении потребовал вернуть конфискованные тиражи. ■

## «Чайнікі» бяруць зморам

**Рыгор БУЯН**

Не паспела заціхнуць рэха пяцідзённага папераджальнага страйку індывідуальных прадпрымальнікаў 1-5 студзеня, як незалежны прафсаюз прадпрымальнікаў зноў рыхтуе агульнанацыянальную акцыю пратэсту. Аднадзённы страйк мае прайсці 28 лютага і ахапіць не менш за 100 тысячаў прадпрымальнікаў. Гэтым разам «чайнікі» патрабуюць не дапусціць росту ставак фіксаванага падатку, прадугледжанага новай рэдакцыяй праекта дэкрэта «Аб адзіным падатку», і адправіць у адстаўку старшыню Дзяржаўнага падатковага камітэта.

У існуючым выглядзе прадпрымальнікі могуць прыняць праект дэкрэта, заявіў намеснік старшыні прафсаюза Леанід Каліценя. Паводле новай рэдакцыі, спрошчаны механізм уліку (адмена адрыўных талонаў, улік выручкі ў свабодным выглядзе, адзіная гадавая справаздача аб даходах), даецца месячны адпачынак, даходы на аснове фіксаванага падатку могуць дэклаўравацца ў якасці сродкаў для набыцця тавараў — збольшага гэты праект задавальняе прадпрымальнікаў. Іншая справа – як гэтыя нowaўвядзенні будуць рэалізоўвацца на практыцы. Больш за тое, да 30% праблемаў, якія ўзнімалі прадпрымальнікі раней, праект не вырашае. «На дадзены момант лепш узяць хоць нешта, чым не атрымаць зусім нічога. Бо калі пачнуцца рэпрэсіі супраць прадпрымальнікаў за «растаможку», то пацерпяць усе – гэта будзе занадта вялікая плата, калі мы будзем упірацца ў 30% нявырашаных пытанняў», — сцвярджае Л.Каліценя.

Што да фіксаванага падатку, то калі цяпер стаўка на нехарчовыя тавары вагаецца ад 20 да 25 долараў, а паводле новай рэдакцыі дэкрэта, устаноўленыя стаўкі ад 25 еўра да 75 еўра, а памер стаўкі ўстанаўлівае мясцовы выканкам. «У прадпрымальнікаў даверу да мясцовай улады, асабліва на месцах, няма ўвогуле ніякага. Нашыя рэгіянальныя арганізацыі небеспадстаўна лічаць, што памеры ставак будуць устаноўленыя вышэй за сярэднія — мінімум па 50-70 еўра. Яны маюць такую магчымасць», — сцвярджае Леанід Каліценя. У выніку дробныя прадпрымальнікі будуць разарацца.

Леанід Каліценя абвяргае думку пра неэфектыўнасць аднадзённага страйку, які не можа даць ніякага плёну: «Праект дэкрэта, які быў да 31 снежня мінулага года, і праект, які з'явіўся пасля 8 студзеня, адрозніваюцца вельмі моцна. Для ўлады страйкі – калі іх пісьменна праводзіць, забяспечваць інфармацыйную падтрымку – вельмі балючы варыянт. Мы не ставім мэту ладзіць нейкія рэвалюцыі. Для прадпрымальнікаў працяглыя страйкі яшчэ больш балючыя, чым для ўлады. Для ўлады балючым будзе страйк, не меншы за месячны, пажадана два-тры месяцы, а для паловы прадпрымальнікаў гэта азначае разарэнне». ■

## Прыватны натарыят эфектыўней за дзяржаўны

**Алена ЛАБАНАВА**

Паводле начальніка ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама Мікалая Падлескага, у 2000 годзе суддзі горада сталі працаваць і хутчэй, і больш якасна. Летась грамадзянаў не задаволілі 15% рашэнняў раённых судоў, і яны іх абскардзілі ў гарадскі суд. Ён у сваю чаргу адмяніў толькі 2% рашэнняў. Што да культуры судовых работнікаў, то паскардзіліся на суддзяў на працягу мінулага года 491 раз. Гэта на палову меней 1999 года.

За 2000 год судамі Мінска было разгледжана 7.664 крымінальныя справы, што на 504 болей, чымсьці ў 1999 годзе. Па іх было асуджана амаль 8 тысячаў грамадзянаў, з іх 7,5% — непаўнагадовыя. Большасць — 39% — асуджана да пазбаўлення волі, амаль з 12% спагнаныя штрафы агульнай колькасцю 86 мільёнаў рублёў, 8% прыцягнуты да выпраўляльнай працы, да 22% прымененыя захады з адтэрмінаваннем пакарання. За год не было вынесена ніводнага смяротнага пакарання, а колькасць апраўдальных выракаў павялічылася з 36 у 1999 годзе да 56.

Дзейнасць натарыяльных кантораў не атрымала такой добрай адзнакі. Дамінуючае становішча належыць дзяржаўным натарыусам, а адсутнасць канкурэнцыі не павялічвае якасць абслугоўвання, што і пацвярджаюць чэргі і скаргі грамадзянаў. Пасля «ўдасканалення дзейнасці натарыята» з 80 прыватных натарыусаў выжыла толькі палова, але прыбытку ад іх дзяржаве столькі, колькі ад усіх дзяржаўных. 41 прыватны натарыус за год здзейсніў натарыяльных дзеянняў на суму 908 мільёнаў рублёў, а 190 дзяржаўных толькі крыху болей – на суму 1,1 мільярда рублёў. Мікалай Падлескі растлумачыў гэта тым, што прыватныя натарыусы маюць трывалую пэўную кліентуру, і адзначыў, што прыватніцкі сектар натарыята будзе шырыцца. Ужо зараз 5 дзяржаўных натарыусаў выказалі жаданне працаваць самастойна.

У Мінску каля 500 адвакатаў і 11 юрыдычных кансультацыяў: па адной у кожным раёне горада і 2 спецыялізаваныя кансультацыі – па юрыдычных асобах і па абароне інтэлектуальнай уласнасці. Кошт кансультацыяў, як правіла, вызначаецца па згодзе бакоў, але могуць аказвацца і бясплатныя кансультацыі — звычайна гэта пенсіянеры і матэрыяльна незабяспечаныя асобы. Што да прыватных адвакатаў, то ў Беларусі іх увогуле няма. ■

## Водар бензіну ў Віцебску

**Леанід СІМАНАЎ**

Экалагічны пікет супраць будаўніцтва ў межах горада завода па вытворчасці бензіну, які планавалі правесці 11 лютага ў Віцебску ўдзельнікі кансультатыўнага савета віцебскіх маладзёжных арганізацыяў рознай палітычнай арыентацыі, не адбыўся.

Напярэдадні акцыі яе ініцыятары падвергліся псіхалагічнаму ціску: камсамольца Дзмітрыя С. «засцераглі» наконт пікета па месцы працы; актывіста Маладога Фронту Сяргея А. выклікалі да дэкана факультэта, а да хатняй гаспадыні, члена Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ірыны Б. з'явіліся прама дадому. Усіх траіх шукалі па адрасах, запатрабаваных у гарвыканкаме, што былі пакінутыя пры падачы заяўкі на пікет. Удзельнічаць у пікеце маладым людзям настойліва «не рэкамендавалі». За ўсім гэтым, як лічаць ініцыятары экалагічнай акцыі, стаяць асобы, зацікаўленыя ў будаўніцтве ў межах Віцебска прадпрыемства па вытворчасці бензіну, — расійскі бізнес і амерыканскія долары.

Між тым Віцебскі гарвыканкам, чыя газета першай паведаміла пра мяркуемае будаўніцтва завода, дагэтуль не адказаў на адкрыты ліст, які яшчэ 8 студзеня накіравалі яму ўдзельнікі кансультатыўнага савета маладзёжных арганізацыяў. Аўтары звароту патрабавалі, каб выканаўчая ўлада не дапусціла будаўніцтва экалагічна небяспечнага прадпрыемства. На аналагічныя пасланні не адказала і адміністрацыя свабоднай эканамічнай зоны «Віцебск», дзе, паводле звестак удзельнікаў кансультатыўнага савета, пад вытворчасць бензіну цяпер выдзеленая тэрыторыя.

«Наша экалагічная ініцыятыва некаму вельмі перашкаджае. Давядзецца пачакаць, пакуль нас падтрымаюць тыя, каму яна патрэбная», – такую выснову зрабілі ініцыятары непрайшоўшага пікета. ■

БелаПАН

## Апазіцыйная Міншчына

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў Мінскай вобласці 8 лютага стварыла абласны выбарчы штаб для каардынацыі дзеянняў аб'яднанай апазіцыі рэгіёна падчас прэзідэнцкіх выбараў.

Сустаршынямі абраныя Валянцін Баранаў з БНФ і Пятро Голасаў з АГП. Валянцін Баранаў 8 лютага заявіў, што ўдзельнікі кааліцыі — БНФ «Адраджэньне», партыя БНФ, АГП, БСДП (Народная Грамада), БСДГ, Свабодны прафсаюз Беларускі ды Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў — настроеныя каардынаваць усе дзеянні, фарміраваць адну ўзгодненую пазіцыю. «Мы спадзяёмся, што максімальна якасна будзе зроблена праца па паляпшэнні палітычнай, эканамічнай сітуацыі і дэмакратычнага працэсу», — упэўнены В.Баранаў.

Між тым, 7 структураў заснавальнікаў абласнога штаба – гэта яшчэ не канчатковы склад структуры: да яе могуць далучыцца іншыя дэмакратычныя арганізацыі. «Мы адкрытыя і для іншых партыяў, прафсаюзаў і няўрадавых арганізацыяў, якія падтрымліваюць нашыя погляды», — заявіў Валянцін Баранаў. ■

## Без прэзумпцыі невінаватасці

Пагоршыўся стан здароўя Уладзіміра Раўкова – былога прарэктара Гомельскага медінстытута. У.Раўкоў чакаў суда, які пачаўся 13 лютага, у Гомельскім СІЗА ва ўмовах, якія пагражаюць яго здароўю.

Пра пагаршэнне стану здароўя Уладзіміра Раўкова паведаміла ў ПЦ «Вясна» яго жонка – Наталля Раўкова: «У мужа павысіўся ціск – 190 на 140. Я патэлефанавала пракурору па наглядзе, каб паведаміць, што ўмовы, у якіх утрымліваецца муж, не адпавядаюць нормам. Пракурор адказаў: «Чаго ж вы хочаце?! Ваш муж злачынца!» Мне давялося нагадаць пракурору, пра існаванне прынцыпа прэзумпцыі невінаватасці – віна мужа не даказаная».

Людзі, віна якіх не даказаная судом, утрымліваюцца ў следчых ізалятарах у цяжкіх умовах, зняволеныя не атрымліваюць дастатковай медыцынскай дапамогі. Так, камера, у якой утрымліваецца Уладзімір Раўкоў, перапоўненая – менш квадратнага метра на чалавека. Такім чынам ажыццяўляецца псіхалагічны і фізічны ціск, каб чалавек забыўся пра сваю годнасць і даваў «патрэбныя паказанні». ■

Праваабарончы цэнтр «Вясна»

## Лёдавы палац у Брэсце – стратны

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Наведвальнікі лёдавага палаца ў Брэсце папярэджаныя аб чарговым падвышэнні коштаў за паслугі. 80 чалавек з адміністрацыі, трэнеры і тэхнічкі патрабуюць лепшага заробку, а гэта магчыма толькі з уласных прыбыткаў спартовага комплексу. Бюджэт па сённяшні дзень вінны будаўнікам за абсталяванне прыкладна 200 мільёнаў рублёў.

Фінансавая нястача прымушае на месцах ламаць прынцыпы дармавога аздараўлення нацыі, абвешчаныя пры «абледзяненні» усіх абласных цэнтраў. Самы танны зараз дзіцячы абанемент у Брэсце – 800 рублёў за 1 гадзіну на лёдзе. Аэробіка, сілавая гімнастыка, фігурнае катанне, хакей даступныя толькі за камерцыйную аплату. Не меней як чатыры разы на месяц лёдавая арэна пераўтвараецца ў сцэну для канцэртных шоу расійскіх «зорак» накшталт Земфіры, Нікалаева і Каралёвай, гуртоў «Рукі дагары», «Мумій Троль» . Гэта яшчэ па двое сутак мітусні і вэрхалу на кожнага.

У палацы ўжо здадзены ў арэнду бар, плануецца адчыніць краму спартовага адзення, вызваліць дадатковыя плошчы пад выставу сучасных будаўнічых матэрыялаў. Карацей, хто заплаціць, таго і прывітаюць. ■

## Лютуе вірус шаленства

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Да 13 адміністрацыйных тэрыторыяў на Брэстчыне, дзе ў 2000 годзе меліся выпадкі шаленства жывёлы, сёлета далучыліся яшчэ Маларыцкі раён і Брэст.

У мікрараёне абласнога цэнтра «Кіеўка» прычынай для аб'яўлення яго зонай з пагражальнай эпідэмічнай сітуацыяй стаў бадзячы сабака, якому дала прытулак сям'я ўрача Г. Не падазраючы пра хваробу жывёлы, трое дарослых і двое дзяцей голымі рукамі апякалі слабога дварняка, пакуль ён, як кажуць, не выпрастаў лапы. І толькі тады медык узгадаў пра сімптомы небяспечнай хваробы. Зараз сям'я вымушана праходзіць 18-дзённы курс вакцынацыі.

У абласным Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі зафіксаваны з пачатку года ўжо 8 выпадкаў сустрэчаў людзей з заражанымі на вірус шаленства жывёламі. У Івацэвічах, прыкладам, чацвёра школьнікаў натрапілі ў лесе на лісу, якая не ўцякала, а лашчылася. Хлопцы забілі яе насмерць, бо яна падрапала іх кіпцюрамі і пакусала. Пасля сустрэчы з лісой і для жыхароў у Пружанскім, Ганцавіцкім, Іванаўскім, Бярозаўскім раёнах давялося прышчапляць адразу 47 чалавек.

60 непажаданых сустрэчаў людзей з разносчыкамі невылечнай хваробы ў 2000 годзе пераўзышлі колькасна такія выпадкі на працягу ўсіх мінулых 20 гадоў. ■

# Дамовіліся

Рыгор БУЯН

12 лютага беларуская апазіцыя дабілася значнага прагрэсу на шляху вызначэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты – у гэтым перакананы старшыня АГП Анатоль Лябедзька. Гэтым днём у Мінску прайшла сустрэча ў фармаце «4х4»: лідэры чатырох буйнейшых партыяў КРДС мелі трохгадзінныя перамовы з чатырма патэнцыйнымі кандыдатамі ў прэзідэнты. Па словах аднаго з удзельнікаў сустрэчы старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, апазіцыя «за тры гадзіны прайшла большы шлях, чым за папярэднія тры месяцы». Пра падрабязнасці перамоваў А.Лябедзька адмовіўся гаварыць, адзначыўшы толькі, што дасягнутыя дамоўленасці выпрацаваць адзіны сцэнар дзейнасці апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах, а таксама прэтэндэнты дамовіліся ісці на выбары адзінай камандай.

Заслону таямніцы з гэтай сустрэчы крыху прыадкрыла інфармацыя, здабытая з розных крыніцаў, якія не пажадалі называцца. Па атрыманых звестках, старшыні АГП А.Лябедзька, БНФ Вінцук Вячорка, БСДГ Станіслаў Шушкевіч ды партыі жанчынаў «Надзея» Валянціна Палевікова сустрэліся з чацвёркай патэнцыйных прэтэндэнтаў: Сямёнам Домашам, Уладзімірам Ганчарыкам, Міхаілам Чыгіром ды экс-міністрам абароны Паўлам Казлоўскім. Прэтэндэнты пацвердзілі намер ісці на прэзідэнцкую кампанію адной камандай – падобныя дамовы ў рамках «тройкі» былі дасягнутыя раней, а цяпер да іх далучыўся кіраўнік Фонду рэабілітацыі здароўя былых вайскоўцаў Павел Казлоўскі, які таксама заявіў намер балатавацца ў прэзідэнты. Праўда, і гэтым разам дамоўленасці застаюцца проста дамоўленасцямі, бо ніякага пісьмовага пацверджання яны не маюць. ■

# Пад еўрапейскай увагай

Рыгор БУЯН

19-20 лютага ў Мінск прыедуць сябры спецыяльнай рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ па Беларусі Герт Вайскірхен (Германія) і Урбан Алін са Швецыі. Дэпутаты маюць намер на месцы пазнаёміцца з сітуацыяй у краіне напярэдадні сесіі ПА АБСЕ, якая пройдзе 22-23 лютага ў Вене. У фармаце гэтага форума 23 лютага пастаянны камітэт ПА АБСЕ мяркуе разгледзець «беларускае пытанне»: каго прызнаваць у якасці адзінага легітымнага заканадаўчага органа – Вярхоўны Савет 13-га скліканя, які вызнаваўся дагэтуль у свеце, ці новую палату №2, сфармаваную леташняй восенню. Гэтым разам, у адрозненне ад чатырох папярэдніх разглядаў «беларускага пытання» на ПА АБСЕ, узнікаюць пэўныя праблемы з прызнаннем Вярхоўнага Савета, бо 9 студзеня скончыўся тэрмін яго паўнамоцтваў.

Віцэ-спікер Анатоль Лябедзька гаворыць, што візіт рабочай групы цалкам заканамерны. Пасля аспрэчвання паўнамоцтваў якой-небудзь дэлегацыі ўступае ў сілу працэдура, паводле якой дзеля вывучэння праблемы ствараецца спецыяльная мандатная камісія. Пасля запланаваных сустрэчаў у міністэрстве замежных справаў, прэзідэнцкай адміністрацыі, Цэнтрвыбаркаме, у Нацыянальным сходзе і з прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета, з дыпламатычнымі місіямі ды праваабаронцамі Герт Вайскірхен і Урбан Алін мусяць падрыхтаваць спецыяльны даклад для мандатнай камісіі – яе паседжанне запланаванае на 22 лютага. Менавіта на паседжанні мандатнай камісіі, на якім будуць заслуханыя абодва бакі, будуць падрыхтаваныя рэкамендацыі для пастаяннага камітэта ПА АБСЕ, які 23 лютага разгледзіць «беларускае пытанне». А.Лябедзька сцвярджае, што працэдура не новая, і праз яе беларускай дэлегацыі давялося ўжо двойчы прайсці.

А.Лябедзька ўпэўнены ў чарговым прызнанні з боку ПА АБСЕ Вярхоўнага Савета, нягледзячы на заканчэнне ягоных паўнамоцтваў. Дэпутаты павязуць у Вену заключэнне Канстытуцыйнага суда, па якім паўнамоцтвы заканадаўчага органа заканчваюцца з першым паседжаннем новаабранага парламента.

Сябра дэлегацыі ВС у ПА АБСЕ Сяргей Калякін прытрымліваецца іншай думкі. Лідэр Партыі камуністаў заяўляе, што паўнамоцтвы ВС скончыліся, і не трэба ўпадабляцца А.Лукашэнку, які незаконна павялічыў тэрмін знаходжання ва ўладзе на два гады. Сяргей Калякін дапускае, што пастаянны камітэт можа ўжо не прызнаваць Вярхоўны Савет і паранейшаму не прызнаваць палату прадстаўнікоў, сфармаваную з масавымі фальсіфікацыямі. У гэтым выпадку ні адзін орган дзяржаўнай улады не будзе прадстаўлены ў ПА АБСЕ. ■







# «Сын з дзяцінства захапляўся аўтамабілямі»

## На пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ адказвае маці затрыманага Аляксандра Чыгіра

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

***— Юлія Станіславаўна, пагадзіцеся, даволі нязвыкла, калі сын былога прэм'ера гандлюе на рынку аўтазапчасткамі.***

– Што тут нязвыклага і ўвогуле прычым тут бацька? Саша з дзяцінства захапляўся аўтамабілямі і стаў у гэтай справе добрым адмыслоўцам. Ужо ў чацвёртым класе ён з сябрам сабралі першы ў нашым двары мапед – самі сабралі, без дапамогі дарослых. Апошнімі гадамі ён зарабляў тым, што купляў старыя ці разбітыя ў аварыях машыны, разбіраў іх, рамантаваў нейкія агрэгаты і прадаваў.

***– Як Міхаіл Чыгір ставіўся да захаплення сына?***

– Вельмі станоўча, ён вітаў тое, што сын з такіх гадоў самастойна шукаў свой шлях.

***– Ці праўда, што Лукашэнка таксама ведаў пра захапленне вашага сына?***

— Так, гэта было, калі яшчэ Міхаіл Мікалаевіч працаваў прэм'ерам. Лукашэнку, відаць, нехта далажыў, што наш сын звязаны з аўтабізнесам. А сын у той час не толькі ўжо займаўся рамонтам, але і дапамагаў сябрам выбраць патрэбную машыну на рынку, бо там часта дураць пакупнікоў. Вось Саша і быў такім кансультантам, яго ж не падманеш. Лукашэнка аднойчы і кажа Чыгіру: чаго гэта твой сын з машынамі звязаўся, калі не можа знайсці працу, дык давай яго ўладкуем механікам у саўмінаўскі гараж... Ён нават не разумеў, што чалавек можа сам выбраць свой шлях. І не абавязкова, каб гэта быў шлях чыноўніка, рукі ў масле – гэта зусім не значыць, што ў чалавека бруднае сумленне. Хутчэй наадварот.

***– Вам невядома, як праходзіла затрыманне?***

— Мне вядома толькі, што пасля яго моцна збілі і што затрымліваў адзін з тых, хто нападаў на яго ў 1996 годзе.

***— ..?***

— Так, быў такі напад побач з універсамам «Юбілейны», калі ў прысутнасці міліцыянтаў майго сына збіў невядомы ў цывільным. Была ўзбуджаная крымінальная справа, але гэтага невядомага не знайшлі, хаця яго падвозілі міліцыянты на сваёй машыне. Міліцыянты заявілі, што не ведаюць, хто гэта быў такі, проста падвезлі чалавека, а ён потым пачаў збіваць Сашу і збег. Справу зачынілі. І вось цяпер праз адваката Саша перадаў, што якраз той чалавек, які яго збіваў тады, цяпер удзельнічаў у затрыманні.

***— Напярэдадні ваш сын не казаў пра тое, што ім цікавяцца, за ім сочаць?***

— Не. Хаця, магчыма, за ім сапраўды сачылі. Неяк два тыдні таму побач з ягоным пад'ездам у мікраране Захад я пабачыла машыну з супрацоўнікамі міліцыі, але ў цывільным. Іх было лёгка пазнаць па тварах і таму, што ў іх была рацыя, ды яшчэ бінокль ляжаў побач з заднім шклом. Літаральна за некалькі дзён да затрымання я выказала яму версію, што гэта ўсё ж ім цікавяцца. У мяне з'явілася прадчуванне, што нешта яны павінны прыдумаць пасля таго, як не атрымалася засадзіць у турму Міхаіла Мікалаевіча...

***— Якія ад яго апошнія звесткі?***

— Адвакат Аляксандр Пыльчанка ўчора сустракаўся з ім у ізалятары. Саша распавёў, што калі тыя, хто яго затрымліваў, пацікавіліся гэтымі запчасткамі, што быццам бы крадзеныя, ён прапанаваў паказаць таго чалавека, у якога іх набыў. Але міліцыянты адказалі, маўляў, няма нам чым займацца, як толькі па рынку бегаць, і павялі яго ў машыну. Адвакат выказаў гэтыя падзеі ў скарзе, але... мы ведаем, з кім маем справу. ■

ЗВЫЧАІ

# Як прагінаюцца чэкісты

Тамаш ПАЛЬМАЧЫНСКІ

Чэкісты бываюць розныя. Ёсць цалкам нармальныя людзі, якіх ванітуе ад цяперашняй улады не менш, чым нас з вамі. Ёсць абыякавыя да ўсяго спецыялісты шырокага профілю, якім да лямпачкі што рабіць і чым займацца. Ёсць вузкія спецыялісты, якія фанацеюць ад свайго занятку і атрымліваюць гемарой на рабочым месцы. Ёсць таямнічыя асобы, закамплексаваныя, суцэльна адданыя нейкай сакрэтнай місіі дзяржаўнай важнасці. А ёсць адчайныя служакі, ініцыятыўныя ў дурной справе і таму энергічныя, верныя начальству, як сабакі, уедлівыя і надакучлівыя.

Новыя, але вельмі характэрныя фарбы да вобраза былога шэфа КДБ генерал-палкоўніка Уладзіміра Ягорава здольны дадаць ліст, нібыта накіраваны ім на адрас А.Лукашэнкі ў кастрычніку мінулага года. Ксеракопія ліста апынулася ў рэдакцыі НАШАЙ СВАБОДЫ даволі таемным чынам: нехта прынёс і перадаў рэдактару. Але сам стыль паперы дужа праўдзівы. Менавіта так і паднімаюцца да вяршыняў кар'еры ў нашай дзяржаве: сочаць, падслухоўваюць, пільнуюць, правакуюць, а потым закладваюць. Інтрыга называецца.

Сітуацыя цалкам верагодная. Сёлета Ягорава не абралі ў палату №2. А што там яму рабіць, спытаецца чытач? Чаму б не сядзець з вудамі на рэчцы? Або гушкаць унукаў на назе? Што такое тая палата, каб гэтак у яе лезці? Ці не наеўся таварыш Ягораў гэтай улады? Відаць, не.

Як сведчыць аўтар ліста, на месцы выбараў у Крычаўскай акрузе 69, у якую уваходзяць таксама Чэрыкаўскі і Чаўскі раёны, зараней паміж сабой не дагаварыліся, каго прызначаць дэпутатам. Аблвыканкам назваў ажно двух кандыдатаў ад улады ў той час, калі патрэбен быў адзін. Не тая арыентацыя нанесла вялікую шкоду дзяржаве. Генерал-палкоўніку далі на Магілёўшчыне па сусалах, нягледзячы на тое, што яго падтрымліваў сам таварыш Дражын М.В. Крыўдна за КДБ. Ну, дык атрымай, фашыст, гранату! Аўтар ліста пералічвае і прыпамінае ўсё, што запісаў на магнітную стужку, падслухаў пад дзвярыма, што перадалі яму «надзёжныя источнікі». Перад чытачом разгортваецца панарама выбарчых баталіяў на Магілёўшчыне, дзе за галасы, нібыта, даюць бензін і аўтобусы.

Калі нашым нашчадкам трапіць у рукі гэты ліст, яны даведаюцца, што не пераводзяцца на Беларусі патрыёты. Трапляюць яны нават у палатку. Пераможца генерал-палкоўніка па прозвішчы Чачора паказаны ў дакуменце нармальным і сумленным чалавекам, які выступае з крытыкай цяперашняй улады і гаворыць так: «Пока народ нищает, пока жизненный уровень падает, я не могу разделять такую политику!». Другі сумленны чалавек, старшыня калгаса «Рэста» Барысенка нібыта параўнаў падтрымку цяперашняга антынароднага рэжыму з халуйствам у час нямецка-фашысцкай акупацыі. Ёсць там і другія нармальныя людзі, і гэтыя людзі не баяцца гаварыць, што думаюць. Дзеці іх будуць ганарыцца сваімі бацькамі. От каб нам болей такіх грамадзян Рэспублікі Беларусь, дык адстаўныя генерал-палкоўнікі даўно б гулялі ў арцабы з адстаўным узурпатарам.

Цікава, ці дадуць таварышу Ягораву якую-небудзь пасаду ў сувязі з гэтай нашай публікацыяй? Ці пакліча яго да сябе Лукашэнка? ■

БАЙКОТ

# Просты да геніяльнасці спосаб перамагчы Лукашэнку

Юрыс ОКРЫЎС

**Неяк вельмі хутка беларуская апазіцыя забылася пра адсутнасць умоваў для вядзення справядлівай передвыбарай барацьбы, пра ганебныя прыёмы дзяржаўнага тэлебачання і радыё ды манапалізаваную прэсу, пра нелегітымнасць новай Канстытуцыі, Цэнтрвыбаркама на чале з Лідзіяй Ярмошынай ды ўрэшце самога кіраўніка дзяржавы.**

Але гэтыя аргументы служылі для апазіцыянераў падставай для байкоту кастрычніцкіх выбараў у Нацыянальны сход. Што ж змянілася? Анічога. Аднак аб'яднаная апазіцыя цяпер рыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў, нягледзячы на тую ж адсутнасць неабходных умоваў.

Вядома, паўнамоцтвы прэзідэнта па Канстытуцыі хоць 1994 года, хоць 1996 года немагчыма параўнаць з дэпутацкімі. Але ці патрэбны Беларусі ў тэорыі новы Лукашэнка, нават з прозвішчам Ганчарык ці Домаш?

Пакуль ніводзін з прэтэндэнтаў на званне адзінага дэмакратычнага кандыдата не паабяцаў публічна ды ясна, што ў выпадку перамогі на выбарах ён абавязваецца: а) падпісаць дэкрэт пра аднаўленне дзеяння Канстытуцыі 1994 года, б) выдаць указ пра абвяшчэнне выбараў у Вярхоўны Савет 14-га склікання (магчыма, толькі па партыйных спісах або па змешанай сістэме). Але ж гэта галоўнае, чаго чакаюць ад новага прэзідэнта тыя, каго можна аб'яднаць у антылукашэнкаўскую кааліцыю. З выкананнем гэтых дамоўленасцяў адзіным кандыдатам можа стаць нават першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін.

Аднак падзеі з арыштам сына Міхаіла Чыгіра сведчаць: не тое што да фінішу, а нават да старту передвыбарчай гонкі апазіцыйныя кандыдаты могуць не дайсці. Паводле звестак з вуліцы Макаёнка, неўзабаве Беларускае тэлебачанне выпусціць у эфір новыя серыялы — пра гродзенскі асабняк Сямёна Домаша і сувязі Уладзіміра Ганчарыка з кіраўніцтвам ліквідаванага «Прафбанка». А гэта значыць, што замест адзінага з трох кандыдатаў могуць быць тры новыя крымінальныя справы.

Вядомы фінансіст Джордж Сорас сказаў пра Аляксандра Лукашэнку: ***«З ім немагчыма гуляць па правілах. Вы гуляеце з ім у шахматы, а ён лупіць вас шахматнай дошкай».***

На жаль, сёлета беларуская апазіцыя зноў збіраецца згуляць з Лукашэнкам у шахматы. Хаця са словаў Сораса апазіцыянеры мусілі зрабіць адну вельмі простую выснову: у шахматы з ім гуляць можна, але не на драўлянай, а на картоннай дошцы.

Такім чынам, трэба памяняць дошку.

На макраўзроўні гэта значыць, што ВЫБАРЫ-2001 трэба пераўтварыць у РЭФЕРЭНДУМ пра недавер Аляксандру Лукашэнку. Трэба вярнуцца да старога лозунга: «БАЙКОТ!» Але, як ні парадаксальна, гэты лозунг трэба напоўніць новым зместам – заклікаць усіх ІСЦІ НА ВЫБАРЫ.

На мікраўзроўні ўсё проста, як і ўсё геніяльнае. Апазіцыя заклікае выбаршчыкаў прыйсці на выбарчыя ўчасткі, але **ЗАБРАЦЬ БЮЛЕТЭНЬ ДАДОМУ**. Лідэры апазіцыйнай кааліцыі павінны падпісаць і распаўсюдзіць зварот да выбаршчыкаў, дзе цвёрда паабяцаць пасля змены ўлады ў Беларусі выплаціць, скажам, 100 долараў за кожны бюлетэнь.

І ўсё! Беларускае заканадаўства не забараняе атрымаць бюлетэнь для галасавання і забраць яго дадому. Можна параіць асабліва пужлівым суграмадзянам прынесці з сабою чысты белы аркуш паперы ды ўкінуць яго ў урну пад выглядам бюлетэня. Ніхто не мае права кантраляваць дзеянні грамадзяніна пасля таго, як ён з бюлетэнем пайшоў у кабінку для таемнага галасавання.

Чалавек, які атрымаў бясплатную паперку-бюлетэнь, пакіне яе сабе, калі будзе ведаць, што можна атрымаць 100 долараў. Вядома, калі гэты чалавек упэўнены, што змена ўлады адбудзецца. Ды нават калі не ўпэўнены, ён зробіць зразумелы выбар: аддаць бясплатна голас Лукашэнку ці пакінуць сабе дакумент, які потым можна будзе выгадна абмяняць.

Што ж гэта прынясе апазіцыі? Актыўны (а не леташні пасіўны) байкот выбараў прывядзе да немагчымасці фальсіфікацыяў бо нельга падкінуць падробленыя бюлетэні ў забітую чыстай паперай урну, і да поўнай паразы Лукашэнкі.

«Хатнія» бюлетэні – гэта ўсенародны вотум недаверу, а таксама мірнае заканчэнне ягонага падоўжанага прэзідэнцкага тэрміну. Нават Масква пасля 27 верасня 2001 не будзе размаўляць з Лукашэнкам як з законным прэзідэнтам, бо ягоныя паўнамоцтвы скончацца паводле ягонай жа канстытуцыі, а ён не будзе абраны. Выконваць абавязкі прэзідэнта распачне Уладзімір Ярмошын, а як толькі гэта здарыцца, усе ўбачаць, што Лукашэнка – голы кароль. Наменклатура, армія ды міліцыя пяройдуць у падпарадкаванне Ярмошыну, а сам ён па канстытуцыі 1996 года не зможа балатавацца ў прэзідэнты, бо нарадзіўся ў Расіі.

І вось тады пройдуць паўторныя, цалкам вольныя і справядлівыя прэзідэнцкія выбары – без Лукашэнкі. Бо толькі без Лукашэнкі выбары могуць быць вольнымі і справядлівымі. ■

 



# Леонид Кучма: «На лукашенковские меры я не пойду»

Агентство «Ю.С.Ньюс»
(www.yusnews.com)

Президент Украины Леонид Кучма дал интервью группе иностранных журналистов, которые прежде всего интересовались отношением украинского лидера к прессе после скандала вокруг «дела Гонгадзе». Напомним, что сотрудник охраны обнародовал сделанные им в президентском кабинете аудиозаписи, где Кучма якобы приказывал министру внутренних дел уничтожить журналиста Георгия Гонгадзе. Сам Кучма признал факт проведения тайной записи в его кабинете, но по-прежнему отрицает, что он отдавал подобные приказы – дескать, пленку смонтировали из других фраз.



Однако примечательно, что на вопрос «может быть, деятельность администрации должна быть более прозрачной, более понятной людям?» Леонид Кучма ответил так:

***— Я с вами согласен. Наверное, сегодня недостаточно, что с информацией выступает только пресс-секретарь. Наверное, если бы глава администрации Литвин делал так, как это делал когда-то Табачник — постоянно выходил перед журналистами и мог ответить, обладал большей информацией, чем пресс-секретарь... Вы абсолютно правы. Наверное, президент, прежде всего, должен выстроить систему работы всей исполнительной власти, чтобы и министры — так сказать, те, кто сегодня представляет интерес для обычных наших граждан, в том числе и силовые министры, выходили перед очи ясные своих людей, открыто в них смотрели и говорили, что же они делают по тем проблемам, которые сегодня людей волнуют. То есть диалог с обществом надо вести постоянный и открытый. Я, наверное, какие-то в этом плане дополнительные меры приму обязательно.***

Журналистка русской службы Радио «Свобода», задавшая упомянутый вопрос, сочла нужным в конце интервью подчеркнуть: **«Закончим словами украинского лидера, которые он произнес, когда я уже выключила запись: *«На лукашенковские меры я не пойду»*...**

Между тем минским журналистам не приходится рассчитывать не то что на встречи с главой администрации Михаилом Мясниковичем, а даже на регулярные брифинги президентского пресс-секретаря Николая Борисевича. Хотя последний, занимая аналогичную должность в министерстве иностранных дел Беларуси, каждый четверг встречался с любыми того желавшими журналистами, не деля их на президентских и антипрезидентских. Видимо, теперь Борисевич вынужден претворять в жизнь те самые «лукашенковские меры» по отношению к прессе. ■

# Еўропа прагне спецыялістаў

Міхась КАРПОВІЧ

У бліжэйшы час Еўрапейскі Саюз плануе ўвядзенне на сваёй тэрыторыі аналагаў амерыканскай «зялёнай карткі» – *Green card*. Пры дапамозе гэтага дакумента на тэрыторыю краіны будуць уязджаць высокакваліфікаваныя спецыялісты.

Як вядома, *Green card* у ЗША прадстаўляе сабой іміграцыйную візу. Яе ўладальнік можа стала жыць і працаваць у Амерыцы і мець амаль роўныя правы разам з грамадзянамі краіны, але не браць удзел у выбарах. Ён карыстаецца тымі ж сацыяльнымі гарантыямі, што і грамадзяне ЗША, і нават можа высылаць афіцыйные запрашэнне сваякам з іншых краінаў, на падставе якога выдаецца віза.

Цяпер неабходнасць у прытоку адмысловаў з-за мяжы адчувае і Заходняя Еўропа. Як паведаміў нядаўна кіраўнік Еўрапейскай камісіі (выканаўчага органа Еўрапейскага Саюза) Рамана Продзі, у самы бліжэйшы час Еўропе спатрэбіцца прыняць не менш за 1,6 мільёна імігрантаў для таго, каб скарацiць дэфіцыт высокакваліфікаваных спецыялістаў. Для гэтага ім, як і ў ЗША, будуць стварацца спрыяльныя ўмовы.

Рамана Продзі прапанаваў краінам Заходняй Еўропы распрацаваць адмысловую праграму для імігрантаў накшталт *Green card*. На думку старшыні Еўрапейскай камісіі, гэта створыць трывалыя юрыдычныя гарантыі для тых, хто прыедзе ў Еўропу на працу. Ён таксама выказаў думку, што, маўляў, «па-сапраўднаму кваліфікаваная працоўная іміграцыя не створыць праблемаў ні з эканамічнага, ні з сацыяльнага пункту гледжання».

У сакавіку адбудзецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў ЕС у Стакгольме, і менавіта да гэтай сустрэчы была прымеркавана заява старшыні Еўракамісіі. На сустрэчы плануецца абмеркаваць вывад эканомікі Еўропы на новы, больш канкурэнтаздольны ўзровень да 2010 года. Дагэтуль Еўрапейскі Саюз істотна адстае па сваіх эканамічных паказчыках ад ЗША.

На думку Р.Продзі, дэфіцыт кваліфікаваных кадраў і бюракратычныя супыцці – галоўная перашкода для эканамічнага ўздыму ў Еўропе. Па яговых словах, працаздольныя эмігранты дазволяць ЕС вырашыць цэлы шэраг істотных праблемаў і будуць толькі спрыяць дзейнасці карэннага насельніцтва.

Газета *Independent* сцвярджае, што ўжо цяпер некаторыя краіны Заходняй Еўропы распрацавалі ўласныя аналагі праграмы *green card*. Улады Германіі, як мы ўжо паведамлялі, нядаўна цалкам змянілі сваю палітыку ў дачыненні да эмігрантаў і праводзяць набор адмыслоўцаў з «трэцяга свету».

Адной з першых на Еўрапейскім кантыненце ідэю стварэння *green card* падтрымала Бельгія. Гэтая краіна выпусціла летась «Зялёную кнігу», якая заклікала да поўнага пераасэнсавання палітыкі іміграцыі ЕС. Аўтары працы сцвярджаюць, што жорсткія правілы іміграцыі прывялі да павелічэння просьбаў аб палітычным прытулку, колькасць якіх толькі ў Еўропе дасягнула ўжо 350.000 у год. Апроч таго, штогод краінам ЕС даводзіцца паглынаць яшчэ паўмільёна нелегальных імігрантаў.

Тым не менш, далёка не ўсе задаволены прапанаваннямі старшыні выканаўчага органа Еўрасаюза. На думку некаторых адмыслоўцаў, калі прапанова Рамана Продзі будзе прынятая, то Захад пачне сапраўднае «рабаўніцтва мазгоў» – краіны трэцяга свету, якія і так знаходзяцца не ў лепшым эканамічным становішчы, застануцца без сваіх прафесіяналаў.

Аднак, як вядома, асноўным спажыўцом замежных мазгоў з'яўляюцца Злучаныя Штаты. Таму Р.Продзі больш клапоціць, як нагнаць ЗША ў гэтым накірунку. ■

# У Кітаі працягваюцца катаванні

Міхась КАРПОВІЧ

**Як паведаміла міжнародная праваабарончая арганізацыя *Amnesty International*, у Кітаі па-ранейшаму шырока ўжываюцца катаванні. У справаздачы, абнародаванай у панядзелак, прыводзяцца дзесяткі зарэгістраваных выпадкаў прымянення катаванняў і збіванняў на тэрыторыі краіны. Пра гэта паведаміла кампанія *CNN*.**

Паводле справаздачы, катаванні шырока прымяняюцца прадстаўнікамі кітайскай паліцыі і турэмнай адміністрацыі. Вядомы выпадак, калі следчы, каб прымусіць жанчыну прызнацца ўтым, што тая займаецца прастытуцыяй, засунуў ёй у рот шкарпэтку, а пасля ўшчыкі зграбатаваў яе. У іншым вядомым выпадку з адной папраўча-працоўнай калоніі на ўсходзе Кітая вязень памёр пасля збіванняў, санкцыяваных адміністрацыяй.

Аднак не толькі прадстаўнікі праваахоўных органаў вядомыя сваёй жорсткасцю. Катаваннямі і здзекамі сістэматычна займаюцца ахоўнікі прыватных прадпрыемстваў, якія могуць збіць і па-іншаму катаваць кліента, які прад'явіў скаргу; падатковыя інспектары, чальцы грамадскіх групаў па падтрыманні парадку і нават супрацоўнікі службы кантролю за нараджальнасцю.

Напрыклад, вядомы выпадак, калі на поўдні Кітая прадстаўнікі службы па кантролі за нараджальнасцю ў 1998 годзе да смерці закатавалі 30-гадовага селяніна, які адмовіўся выдаць месцазнаходжанне сваёй жонкі, што чакала незапланаванага дзіцяці. Вядома таксама, што аднойчы вартаўнікі аднаго з гарадскіх паркаў збілі чалавека электрычнымі дубінкамі толькі за тое, што ён прайшоў па газоне.

Самае кепскае становішча з правамі чалавека назіраецца ў Тыбеце і іншых рэгіёнах Кітая, што змагаюцца за незалежнасць. Адтуль паступае асабліва шмат скаргаў на ўжыванне катаванняў. Уйгур Зулікар Мемет, якога абвінавацілі ў аказанні дапамогі сепаратыстам, быў пакараны смерцю нават пасля таго, як прад'явіў суддзям свае пальцы, на якіх не засталося пазногцяў. Ён паведаміў, што такім чынам следчыя па ягонай справе дабіваліся прызнання ў злачыннай дзейнасці.

Асабліва жорсткія катаванні ў Кітаі прымяняюцца таксама да членаў забароненай рэлігійнай секты Фалуньгун. Як сцвярджаюць яе прадстаўнікі, толькі за апошнія паўтара года ад катаванняў і збіванняў памерлі 143 сектанты.

Агенцтва *CNN* нагадвае, што справаздача *Amnesty International* была абнародаваная ўсяго за два тыдні да таго, як у Кітай прыедуць інспектары Міжнароднага алімпійскага камітэта. Яны мусяць непасрэдна на месцы ацаніць, што адбываецца ў краіне, якая падала заяўку на правядзенне ў Пекіне Алімпійскіх гульняў у 2008 годзе. У 1993 годзе менавіта з-за кепскага стану з правамі чалавека Пекіну не дазволілі стаць гаспадаром Алімпіяды-2000.

Кітайскі ўрад рапартуе, што ўжо прымае захады, скіраваныя на абмежаванне насілля, ад якога пакутуе насельніцтва краіны. Апошнім часам мясцовыя сродкі масавай інфармацыі атрымалі большую ступень свабоды ў асвятленні выпадкаў ужывання катаванняў і збіцця людзей. Але гэтая тэма з'яўляецца па-ранейшаму табуяванай у выпадку, калі катавалі чалавека па палітычных матывах.

У якасці прыкладу змянення стаўлення кітайскіх уладаў да катаванняў *Amnesty International* прыводзіць прыклад, калі супрацоўнік адной з калоніяў быў асуджаны да 10 гадоў турмы за тое, што ў 1998 годзе збіць зняволенага за спробу ўцячы. Тым не менш, выпадкі пакарання вінаватых у катаваннях надзвычай рэдкія. Эксперты праваабарончай арганізацыі падкрэсліваюць, што кітайскае заканадаўства пакідае вельмі шмат магчымасцяў для маштабнага парушэння правоў чалавека.

«Катаванні ў Кітаі застаюцца галоўнай праблемай, звязанай з парушэннем правоў чалавека. Кола афіцыйных асобаў, уцягнутых у заганную практыку, штодня расце – гэтаксама, як і кола іхніх ахвяраў, – паведамляе справаздача. – Урад краіны ўжо шмат гадоў прызнае існаванне праблемы, але практычна нічога не робіць, каб яе выкараніць». ■



Кітайскага зняволенага вядуць на смерць

# Радыёстанцыя для цыганоў

Ірына СТАРЦАВА

У Венгрыі ўпершыню выйшла ў эфір радыёстанцыя, якая вяшчае на цыганскай мове. Пра гэта паведаміла *Associated Press*.

Заснавальнікі станцыі мяркуюць, што яна дапаможа вырашэнню праблемаў паўмільённага цыганскага насельніцтва Венгрыі.

У праграме перадачаў радыёстанцыі – навіны, нацыянальная музыка, перадачы пра культуру і нацыянальныя вытокі цыганскага народа.

Для Венгрыі гэта першае такое радыё, няшмат цыганскіх станцыяў і ва ўсёй Еўропе. Вядома, што некалькі цыганскіх радыё існуюць у Македоніі.

Арганізатары станцыі перакананыя, што яна будзе спрыяць адукацыі цыганоў, фарміраванню ў іх больш высокай нацыянальнай самасвядомасці.

Радыё фінансуецца шэрагам заходніх дабрачынных арганізацыяў, у тым ліку фондам Сораса, дапамагае яму і Еўрапейскі Саюз.

Але для таго, каб пачаць поўнамаштабнае сталае вяшчанне, станцыі неабходна яшчэ выйграць конкурс у дзвюх станцыяў хрысціянскага накірунку. ■

# Рыхтуецца арышт дыктатара

Міхась КАРПОВІЧ

Міністр унутраных справаў Югаславіі Зоран Жыўкавіч заявіў у панядзелак, што ягонае ведамства цалкам гатовае ўзяць пад варту былога прэзідэнта Слабадана Мілошавіча. Неабходна толькі, каб генеральны пракурор краіны падпісаў санкцыю на арышт.

Міністр дадаў: «Асабіста я лічу, што для гэтага ўжо ёсць дастаткова прычынаў, але я не пракурор і не магу выдаць санкцыю».

Сербскі парламент – скупшчына, большасць у якой цяпер складаюць дэпутаты ад дэмакратаў, у панядзелак паставіла на парадак дня пытанне аб адхіленні ад пасадаў старога судзейскага і пракурорскага складу, што дасць магчымасць правесці судовы працэс над былым дыктатарам.

Прэм'ер-міністр Сербіі Зоран Джынджыч чарговы раз пацвердзіў, што суд над Слабаданам Мілошавічам мусіць праходзіць толькі ў Югаславіі. Ён заявіў, што пакуль застаецца на сваёй пасадзе, «Мілошавіч ні ў якім выпадку не будзе выдадзены Захаду».

Тым часам, як паведамляе *BBC*, скупшчына Сербіі прыняла закон аб амністыі, паводле якога скарачаецца тэрмін турэмнага зняволення для прыкладна чвэрці асуджаных крымінальнікаў, за выключэннем самых небяспечных. Новы закон таксама пацягне датэрміновае вызваленне больш за 4.000 зняволеных у Сербіі. ■

# Вялікабрытанія – наперадзе

Ірына СТАРЦАВА

Брытанскі міністр гандлю і прамысловасці Стывен Баерс прадставіў грамадскасці новыя эканамічныя дадзеныя, на падставе якіх можна пабачыць: Злучанае Каралеўства з'яўляецца адным з найбольш перадавых краінаў у сусветнай эканоміцы. Пра гэта паведаміла газета *Daily Telegraph*.

Індыкатары, якія ахопліваюць больш за 40 ключавых галінаў у ацэнцы стану эканомікі, уключаючы ўзровень інвестыцыяў і выкарыстанне найноўшых тэхналогіяў, сведчаць, што прамыя замежныя інвестыцыі ў эканоміку Вялікабрытаніі былі самымі высокімі сярод вядучых індустрыяльна развітых краінаў.

Аднак, адзначаецца, што прадуктыўнасць працы на Брытанскіх выспах пакуль «некалькі ніжэйшыя», чым у сярэднім па краінах «вялікай сямёркі». Пры гэтым, кожны працаўнік у Вялікабрытаніі выраблае тавараў або паслугаў на 45% больш, чым ягоны амерыканскі калега.

Як паведамляе газета, чакаецца, што ў бліжэйшы час С.Баерс прадставіць праект радыкальных рэформаў у сферы заканадаўства пра банкруцтва фізічных асобаў. Новае заканадаўства скіраванае на тое, каб дапамагчы асобам, чый бізнес сбанкрутаваў не ў выніку іхняй віны або памылкі, хутчэй вярнуцца да працы. На думку супрацоўнікаў міністэрства гандлю і прамысловасці, гэтыя ініцыятывы мусяць «падтрымаць развіццё эканомікі». ■

# Гавел трапіў у шпіталь

Міхась КАРПОВІЧ

**Чэшскі прэзідэнт Вацлаў Гавел, вядомы дысідэнт і драматург, мусіць правесці як мінімум некалькі дзён у Пражскім вайсковым шпіталі. Па словах дактароў, якія займаюцца ягоным здароўем, у 64-гадовага прэзідэнта назіраюцца сімптомы пнеўманіі. Пра гэта паведамліла агенцтва *CNN*.**

Як вядома, падчас падарожжа В.Гавела на Блізкі Поўдзень, ён раптам адчуў сябе дрэнна. Гэта адбылося яшчэ ў Саудаўскай Аравіі. Тым не менш, прэзідэнт Чэхіі вырашыў працягнуць свой візіт. Пасля Саудаўскай Аравіі Вацлаў Гавел вылецеў у Кувейт, дзе стан здароўя ў яго яшчэ больш пагоршыўся, і тады прэзідэнт мусіў тэрмінова вылецець на радзіму. У палёце яго суправаджаў асабісты ўрач эміра Кувейта. Эмір таксама выдзеліў для гэтай мэты адзін са сваіх прыватных самалётаў.

На працягу некалькіх апошніх гадоў Вацлаў Гавел перанёс некалькі вельмі складаных аперацыяў на лёгкіх і кішэчніку. У 1996 годзе ўрачы выразалі ў яго трацiну лёгкага падчас аперацыі па выдаленні злаякаснай пухліны. **У 1998 годзе прэзідэнт Чэхіі ледзьве не памёр у выніку ўскладненняў пасля яшчэ адной аперацыі.**

**Яшчэ з камуністычных часоў у В.Гавела вельмі хворыя лёгкія, і таму любая вірусная інфекцыя прадстаўляе істотную небяспеку для ягонага жыцця.** ■

# Гарсона абвінавачваюць у парушэннях

Ірына СТАРЦАВА

Дысцыплінарная камісія Вышэйшага судовага савета Іспаніі вырашыла пачаць расследаванне ў дачыненні некаторых дзеянняў суддзі Бальтасара Гарсона, вядомага перш за ўсё сваёй актыўнай роляй у працэсах па «справе Піначэта» і «справе Гусінскага». Пра гэта паведаміла РИА «Новости».

Нагодай для пастановы стала з'яўленне ў канцы мінулага года кнігі журналісткі Пілар Урбана «Чалавек, які пабачыў світанак». Кніга прысвечаная Бальтасару Гарсону.

Як сцвярджае сама П.Урбана, яна правяла незалежнае расследаванне, атрымаўшы ўсе дадзеныя пра Б.Гарсона не ад яго самога, а ад сваіх крыніцаў у судовых колах, і гатовая несці адказнасць за ўсё, што напісала ў кнізе.

Бальтасара Гарсона абвінавачваюць у тым, што ён нібыта абнародаваў дэталі некаторых судовых справаў, якія ён вядзе.

Паводле іспанскіх законаў, такія дзеянні расцэньваюцца як парушэнне працэсуальных нормаў і судовай этыкі, і суддзя можа быць адхілены ад працы ў судовых органах на тры месяцы або нават назаўсёды. Тым не менш, як маркуе іспанская прэса, «справу Гусінскага» Бальтасар Гарсон паспее давесці да канца. ■

 

# Здоровые «зэки» хотят работать

## Сегодня в наших «зонах» сидит 58 тысяч человек. Заняты трудом 62 с половиной из каждых ста

Николай ВЕРИГО

**Сегодня в местах лишения свободы находится 19 предприятий и 7 производственных мастерских. Производства существуют практически во всех колониях Беларуси. Предприятия имеют свою штатную структуру, директора и содержатся за счет себестоимости продукции. Производства, расположенные в местах лишения свободы, имеют свою специфику. Например, если главной целью гражданского предприятия является получение прибыли для дальнейшего развития родного завода, то здесь во главу угла ставится трудовая занятость, как его называют, спецконтингента. Свои «льготники» есть и на зоне: привлечению к труду не подлежат лица пенсионного возраста, инвалиды второй группы и те, кто имеет серьезные ограничения по состоянию здоровья.**







Серьезные сложности у производств, расположенных за забором, начались в 90-е годы, когда пошло на спад все промышленное производство. Но связаны они были не только с экономическими трудностями. Если в начале 90-х в республике насчитывалось 17-18 тысяч заключенных, занять которых работой не составляло особого труда, то сегодня в зонах оказалось 58 тысяч человек. И всех их надо чем-то занять... Между тем, в декабре 2000 года занятость на предприятиях Комитета по исполнению наказаний Республики Беларусь равнялась 62,5% от общего числа заключенных, подлежащих привлечению к труду. Это составило более 25 тысяч человек. 18 тысяч человек в белорусских зонах сегодня остаются без работы. Как показывают расчеты, затраты на их содержание будут компенсированы ими самими лишь при условии, что заняты будут 70-80% осужденных. Причины, по которым это не получается, банальны и мало отличаются от тех, которые испытывают предприятия, расположенные на воле: отсутствие заказов и оборотных средств, рынков сбыта и так далее...

Система трудовой занятости и трудовой деятельности в ИТУ в былые времена строилась по принципу возвратной кооперации с крупными заводами. В системе ИТУ были предприятия, которые обеспечивали рядом изделий, например, тракторные заводы всей европейской части Союза, изготавливали глушители на все виды колесных машин, жесткие сцепки, ряд узлов трансмиссии и т.д. Кроме того, белорусские предприятия системы ИТУ обеспечивали запчастями половину огромной страны. Что касается белорусских предприятий, то среди партнеров системы ИТУ — БелАЗ, МТЗ, МАЗ, Гомсельмаш, «Горизонт», «Коралл».

Наряду с возвратной кооперацией здесь развивалось и собственное производство. В колониях производилась мебель — ее традиционно изготавливали минская ИТК-1 и ИТК-5 в Ивацевичах. Здесь выпускают кухонные, спальные гарнитуры, гостиные, прихожие, делают мебель под заказ. Кстати, система ИТУ обладает монополией на производство стальной оцинкованной посуды, той самой, которой вы хоть раз в жизни пользовались в общепитовской столовой, штампуют ведра, тазики, канистры, алюминиевые столовые приборы... Впрочем, ассортимент гораздо шире, нежели стулья и тазики: на белорусских зонах шьют форму для МВД, погранвойск, пожарные костюмы, хомуты, волейбольные мячи, игрушки, изготавливают телеги и гробы...

После развала СССР связи сохранились лишь с теми российскими предприятиями, которые сумели остаться «на плаву». Заводы на воле встали перед дилеммой: либо трудоустраивать своих сотрудников, либо заботиться о белорусских осужденных. Ответ на вопрос, в чью пользу принимались решения, угадывается с одного раза. Слишком сложно объяснить рабочим, почему те заказы, которые они сами могут выполнить и получить за них деньги, надо отдавать заключенным. На зону и так передают самую тяжелую, низкооплачиваемую и трудоемкую работу.

В поисках выхода было решено развивать собственное производство. В качестве приоритетов были выбраны древообработка (она имеет давние традиции, да и сырье под рукой), швейное производство и металлообработка. За довольно короткий срок заключенные освоили около 500 наименований различных изделий, но это не смогло решить всех проблем, главной из которых остался поиск рынков сбыта. И если наличие площадей, оборудования, технологической базы позволяло увеличить объемы производства, ограниченные потребности рынка делали это бессмысленным. Так, если раньше торговля брала в год около 6 тыс. тонн оцинкованной посуды, теперь потребности Беларуси не превышают 2 — 2,5 тыс. тонн. Не помогло расширение ассортимента и увеличение количества наименований. Пришлось выходить на российский и украинский рынки. В настоящее время заключено соглашение с министерством юстиции Российской Федерации, предусматривающее организацию торговых домов. Впрочем, здесь встает другая проблема — возврат выручки.

Предприятия, находящиеся под руководством КИНа, имеют некоторые льготы. Так, они освобождены от уплаты налога на прибыль (за прошлый год эта сумма составила около 400 млн. рублей), а также от уплаты НДС. Тем не менее, объем производства этих предприятий в масштабах общереспубликанского производства весьма незначителен и составляет всего несколько процентов. При общем объеме произведенной продукции 12,6 млрд.рублей прибыль за прошлый год составила 1 млрд. 920 млн.рублей, рентабельность — 14%. В виде налогов в бюджет предприятия системы вернули 1 млрд. 260 млн. рублей.

Вопросы получения и распределения прибыли тоже имеют свою специфику. Дело в том, что у многих предприятий прибыль остается на бумаге, поскольку заводы рассчитываются неохотно. Вот и ищут на зонах нетрадиционные формы расчета. Например, у завода, для которого изготавливаются узлы для автомобилей, есть потенциальная возможность получать в порядке расчета уголь из разрезов, куда поставляются машины. Между прочим, система ИТУ для содержания своих котельных потребляет ни много, ни мало — 12 тысяч тонн угля в год.

Получаемой прибылью предприятие распоряжается самостоятельно. Заключенным начисляется заработная плата, правда, вся купля-продажа в местных магазинчиках, с учетом зоновской специфики осуществляется по безналичному расчету. Методика расчета тоже специфична, поскольку основная масса заключенных имеет удержание по исполнительным листам. Комитетом по исполнению наказаний по согласованию с прокуратурой МВД принят межведомственный акт, который гарантирует заключенному получение 25% от заработанной им суммы.

Примерно 10% прибыли идет в централизованный фонд Комитета по исполнению наказаний. На эти деньги открывается ряд новых предприятий, покупается оборудование, обучаются кадры. Редкий случай, когда развитие производства не вызывает чувства глубокой радости, ибо рабочая сила для этих предприятий — сидельцы белорусских зон... Количество заключенных постоянно растет, а у государства нет денег на их достойное содержание. Значит, надо придумывать способы, которые позволили бы максимально обеспечить их работой. Для этого в декабре 2000 года в Совет министров была представлена программа трудовой занятости на 2001-2005 год, которая предусматривает ряд изменений в законодательных актах. КИН вышел с предложением включить его предприятия в инвестиционную программу министерства экономики по трудозанятости спецконтингента. 18 тысяч безработных зеков — источник потенциальной опасности, который в любой момент может обернуться серьезными инцидентами в местах лишения свободы. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Где взять 4 миллиона казиков?

Валентина ТАРАН

Вообще-то, что рано или поздно раздастся «глас народа», вопиющий о необходимости внести изменения в конституцию, ограничивающую возможность переизбрания президента свыше двух раз, мало кто сомневался. Ну, как же? «Александр Григорьевич так молод, спортивен, полон творческих сил — и на пенсию? Белорусский народ не допустит такого кощунства, мы не можем разбрасываться гениальными самородками, пропадем и сгинем без дорогого и испытанного вождя...» Что-нибудь в таком роде вполне уместно, с учетом белорусских реалий, смотрелось бы через пару лет, ближе к концу второго срока президента Лукашенко. И исходить такие требования, как и положено, должны были бы от «простых» людей, печально известных представителей творческой интеллигенции и, конечно же, очередного «всебелорусского собрания». Но для этого, как минимум, надо переизбраться на этот самый второй срок. Похоже, совсем плохи дела в предвыборном штабе президента, если пошли там на явный фальстарт, уже сейчас заговорив о незаменимости Александра Лукашенко.

Эту новость решили преподнести народу устами проверенного в боях социолога, председателя комиссии нижней палаты лукашенковского парламента, секретаря ЦК КПБ Игоря Катлярова. В субботнем эфире программы «Панарама» он, для начала огорчившись некоторым падением рейтинга президента, который по его просвещенному мнению составляет на сегодняшний день 50 процентов, тут же порадовался, что такого запаса любви электората незаменимому лидеру хватит еще на много пятилеток. «Если не будет каких-то резких изменений, катаклизмов и стрессов, то на 15 лет вот этого рейтинга, этого доверия белорусского народа Александру Григорьевичу достаточно. Т.е., если он ничего не будет делать, если оппозиция ничего не будет делать, то через 15 лет его вновь, если будут изменения в конституции, изберут уже на четвертый срок». Какое счастье! А если он все-таки будет что-нибудь делать, то представляете, на какой срок его изберут через 30 лет? Ученый муж, народный депутат и стойкий партиец излучал непоколебимую уверенность в грядущих победах. «Если завтра будут выборы белорусского президента, нынешний президент страны победит, получив 75-80% голосов. Может возникнуть вопрос: откуда?» — не мучайтесь сомнениями и не задавайте наивных вопросов, все подсчитано с бухгалтерской точностью: «Давайте попробуем провести несложные арифметические действия. Сегодня в стране чуть более 8 миллионов избирателей, за нынешнего президента готовы проголосовать 4 миллиона — это те люди, которые обязательно придут на выборы. На выборы придет примерно 70-75%, т.е. 6 миллионов избирателей. Из 6 миллионов за Александра Григорьевича голосует 4 миллиона, таким образом — 66-70 процентов гарантии. Вся остальная оппозиция (будь это один, два кандидата или пять) получит вместе 10 процентов. Если будет один кандидат, он получит 5-8%, до 10. Если завтра выборы — президент победит 70 на 10». Здорово! Но мне почему-то кажутся более убедительными выкладки 65-летнего минского пенсионера Владимира Васильевича Кузменка, за день до появления на экране Катлярова, недоумевавшего в личной беседе: «Никак не пойму, почему президент приватизировал народ, то и дело заявляет — «мой народ». Я вот с кем ни поговорю — в электричке, автобусе, с соседями — никто не собирается за него голосовать. Только сосед Казик, такой же пенсионер, как и я, твердит: «Ай, молодец, Лукашенко, поддерживаю!» Может он с иронией его хвалит?» ■

АСПЕКТЫ

# Асцярожна: ніны!

## Усё больш станаўлюся антыправаслаўным атэістам

Юры СВІРКО

**У тую ж суботу, калі нехта Казіятка прапагандаваў у «Панараме» артыкул лаўрэаткі Філарэтавай прэміі Ніны Яновіч пра беларускіх пратэстантаў як «сектантаў», дзе быў заклік да міністэрства адукацыі выхоўваць моладзь па-праваслаўнаму, «коль мы православная страна», яна надрукавала ў сваёй «Народнай» газеце чарговы опус.**



Таму замест прэміі варта было б мітрапаліту Філарэту асудзіць рабу Божую Яновіч за распальванне ў краіне рэлігійнай варожасці.

Гэтым разам ёй не дагадзілі ўжо... праваслаўныя! Праўда, не Маскоўскага патрыярхату, а Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, якую Яновіч назвала на старонках газеты «автофекальной», бо гэта «церковь оппозиции». А апошнім у пераліку грахоў гэтай царквы было тое, што ў Петра-Паўлавым саборы сталіцы ўжо ёсць беларускамоўная літургія. Яновіч жа хоча толькі «общий старославянский». Відавочна, слова «фекаліі» яна знайшла менавіта там.

Хачу нагадаць «Народнай» газеце, што Канстытуцыя Беларусі (ва ўсіх рэдакцыях) сцвярджае наступнае. Артыкул 4: «Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове ***разнастайнасці*** палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў. Ідэалогія палітычных партый, ***рэлігійных груп*** або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп ***не можа*** ўстанаўлівацца ў якасці ***абавязковай*** для грамадзян» (тут і далей выдзелена мною. – Ю.С.) А артыкул 16 пачынаецца гэтак: «Рэлігіі і веравызнанні ***роўныя*** перад законам».

Мала таго, што ўсё больш грамадзян Беларусі ставяць знак роўнасці паміж Філарэтам і Лукашэнкам ды паміж праваслаўем і рынкавым сацыялізмам, а я асабіста ўсё больш станаўлюся антыправаслаўным атэістам (не ў тым сэнсе, што я супраць праваслаўя, — я супраць антыканстытуцыйнага адзяржаўлення царквы). З цягам часу, калі гэтыя яновіч і чайкі будуць па-ранейшаму падтрымлівацца кіраўніком Беларускай праваслаўнай царквы, супраць гэтай арганізацыі новыя ўлады змогуць выкарыстаць канцоўку таго ж 16-га артыкула Канстытуцыі:

«Забараняецца дзейнасць рэлігійных арганізацый, іх органаў і прадстаўнікоў, якая накіравана супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе канстытуцыйнага ладу і грамадзянскай згоды...»

І тады ніякія прэміі не дапамогуць. А пакуль – куды глядзіць Дзяржкамдрук? Няўжо толькі ў незалежных выданнях «вашывых блох» ловіць ды папярэджанні ім пячэ, як бліны? ■

# Жыццё кампазітара Міколы Равенскага

Дзіяна ЧАРКАСАВА

**Музычная спадчына беларускага кампазітара Міколы Равенскага магла б скласці гонар любому народу, але беларусы пра яго амаль не ведаюць. Аднак у першай палове 90-х гадоў, у кароткі прамежак часу, калі Беларусь была свабоднай і нават набыла свое адметныя дзяржаўныя сімвалы, а народ абмяркоўваў варыянты новага беларускага гімна, Мікола Равенскі згадваўся як магчымы аўтар будучага дзяржаўнага гімна.**



## Жыццё

«Магутны Божа» на словы паэтэсы Наталлі Арсенневай гучаў тады па радыё, яго выконваў хор пад кіраўніцтвам Віктара Роўды, спяваў мужчынскі хор «Унія».

У лістападзе 1993 года ў горадзе Чэрвені на доме № 16 па вуліцы Луначарскага была адкрытая мемарыяльная дошка. На ёй напісана, што тут з восені 1941 да лета 1944 года жыў Мікола Равенскі. Дошка-твор скульптара Генадзя Матусевіча, які ўвасобіў у ім тое, што, на яго думку, дапамагло кампазітару выжыць у складаных умовах ваеннага часу. Вера ў Бога і музыка. Агеньчыкі свечак, што ў той дзень прынеслі на ўрачыстасць землякі кампазітара, нібы ачышчалі ягоную трагічную постаць ад усяго несправядлівага і недарэчнага.

Мікола Равенскі нарадзіўся ў снежні 1886 года ў вёсцы Капланцы былога Ігуменскага павета, і менавіта ў гэтыя мясціны ён вярнуўся ў пачатку вайны. На руках у яго апынуліся дзве маленькія дачушкі, і яму давялося іх даглядаць. У Чэрвені яшчэ і сёння жывуць людзі, якія памятаюць Міколу Равенскага або чулі пра яго ад старэйшых. Мне было прыемна слухаць тыя аповяды, таму што вобраз, што склаўся ў маім уяўленні, калі я чытала і пісала пра Міколу Равенскага, нічога не страціў, а ад новых звестак здаваўся яшчэ больш прывабным і яшчэ больш трагічным.

Мікола Равенскі быў глыбока веруючым чалавекам. А выражалася гэта і ў яго паводзінах. У яго добразычлівасці, сціпласці, цярплівасці, прыхільнасці да людзей, уменні іх разумець і дараваць. Ён пісаў духоўную музыку, і творы Міколы Равенскага гучалі і гучаць у храмах.

І ў Чэрвені яго жыццё было звязанае з музыкай, царквой, дзе ён выконваў абавязкі псаломшчыка і стаў рэгентам царкоўнага хору. Дадому да яго прыходзілі вучні, і ён вучыў іх музыцы, спевам. Вучаніцай Міколы Якаўлевіча была і Лідзія Задорына. Яна і цяпер жыве ў Чэрвені, як і ўсе, хто яго ведаў, гаворыць пра Равенскага са спагадай і добразычлівасцю.

– Цяпер я разумею, што ў той час Міколу Якаўлевічу было не надта многа гадоў, – гаварыла Лідзія Задорына, – але мне ён запомніўся як пажылы чалавек, да таго ж заўсёды ў клопатах пра малых дачок, якіх сам карміў і даглядаў. Быў ён заўсёды добрым, мяккім, інтэлігентным, толькі вельмі замардаваным жыццём.

Вось такой была «дзейнасць» Міколы Равенскага на Бацькаўшчыне ў часе Другой сусветнай вайны. Калабарантам не быў, у паліцыі не служыў, акупантаў не праслаўляў, ніякім чынам ім не служыў. І ўсё ж паехаў з імі на Захад. Чаму?

У Чэрвені зямляк Міколы Равенскага Уладзімір Дарагуш сказаў:

– Паехаў Мікола Равенскі ў Нямеччыну напрыканцы вайны, і добра зрабіў, што паехаў.

Стала неяк балюча ад гэтых словаў, а Дарагуш так патлумачыў сваю думку:

– Каб застаўся ў Чэрвені, пасадзілі б у турму або проста маглі расстраляць, як здарылася з царкоўным старастам, бяскрыўдным, ціхім чалавекам. Калі горад вызвалілі, нейкі партызанскі інтэндант вывеў яго ў двор і застрэліў. Тое ж магло стацца і з Равенскім.

Думаю, што ўсё гэта Мікола Якаўлевіч прадбачыў і сам. Тым больш, што яшчэ перад вайной яго, мусіць, проста не паспелі арыштаваць і адправіць туды, куды трапілі многія сябры і родны брат Антон. Праўда, праз дваццаць гадоў дачцэ Антона Равенскага выдалі паперку, што ён рэабілітаваны, а на пытанне, дзе ён пахаваны, адказалі: «Нясіце кветкі ў Курапаты».

Лагерны лёс напаткаў і блізкага сябра Міколы — паэта Уладзіміра Дубоўку, які абвінавачваўся ў нацдэмаўшчыне, і гэтая «пляма» аўтаматычна клалася і на блізкіх да яго людзей. Яны ж сябравалі яшчэ з маладосці. Дубоўка аказваў на яго ідэйны, інтэлектуальны і творчы ўплыў. Па словах самога кампазітара, ён сфарміраваў яго як творчую асобу, як нацыянальнага кампазітара, яго ўплыў кіраваўся на тое, каб зрабіць з Равенскага «піянера таго беларускага «ўзвышша», якое пабачаць вякі і народы ў музыцы, ініцыятарам і карыфеем якога ў літаратуры быў Дубоўка». На словы паэта М.Равенскім напісаныя выдатныя рамансы і песні, у прыватнасці, на хрэстаматыйны верш «О, Беларусь, мая шыпшына». Апагея супрацоўніцтва двух таленавітых творцаў дасягае ў пару, калі яны прыступаюць да працы над операй «Бранiслава». Дубоўка піша лібрэта, Мікола Равенскі — музыку. Першая беларуская нацыянальная опера была амаль скончаная, калі Уладзімір Дубоўка быў на многія гады адарваны ад радзімы, блізкіх людзей, творчасці. А «Браніславу» таксама «арыштавалі». Равенскі вымушаны быў здаць яе ў Народны камісарыят асветы, дзе яна, відаць, і загінула. У дачкі кампазітара Вольгі Мікалаеўны Аляксеенка (Равенскай), якая была артысткай у хоры Віктара Роўды, захавалася толькі арыя Браніславы.

Пасля арышту Дубоўкі, брата Антона, сваёй чаргі чакаў і Мікола Якаўлевіч. Знаёмыя перасталі вітацца, яго выключылі з членаў Саюза кампазітараў, у кансерваторыі, дзе ён выкладаў кампазіцыю і гармонію, пакінулі толькі адзін прадмет – гармонію. Яго нават збіраліся выселіць з кватэры. Ці мог не разумець Мікола Равенскі, што да яго даваенных «грахоў» улады абавязкова дабавяць і тое, што ён знаходзіўся на акупаванай ворагам тэрыторыі, невядома, як паглядзяць і на тое, што служыў у царкве. Шанцаў застацца на волі ў яго не было. Да таго ж, падкасілі яго і сямейныя трагедыі. Загінула Лёля, дачка ад першага шлюбу, расстраляная фашыстамі ў двары мінскай турмы. Яна была сяброўкай і сувязной Ісая Казінца, які стварыў у Мінску падпольную групу і быў сакратаром падпольнага камітэта партыі. Не склалася сям'я і з другой жонкай, якая была значна маладзейшая за яго. Яна забрала дзяўчынак, што былі з Міколам Якаўлевічам у Чэрвені, і ехаць з ім за мяжу адмовілася.

## Творчасць

Столькі часу мінула ад канца Другой сусветнай вайны. Многія зразумелі: не кожны, хто пайшоў з немцамі на Захад, здраднік. Радзіму пакідалі людзі ні ў чым не вінаватыя перад ёй, але апанаваныя страхам за сваю будучыню, за будучыню блізкіх і страхам, на жаль, зусім не беспадстаўным. Апынуўшыся за мяжой, яны часцей за ўсё мелі зусім нялёгкае жыццё, але і там заставаліся сумленнымі людзьмі, і як маглі, служылі сваёй радзіме. Такі ж лёс і ў Міколы Равенскага. Апынуўшыся ў Германіі, ён перамяніў некалькі лагераў для перамешчаных асобаў, працаваў рабочым на лесапільным заводзе, але ў такі змрочны час не зрокся музыкі. У лагеры ён напісаў музыку да верша «Магутны Божа». Запісаў і згарманізаваў мноства народных песень (у большасці польскіх), пачутых на чужыне ад такіх жа ўцекачоў, якім быў сам.

У Рэгенсбургу М.Равенскі стварыў хор, які праз два месяцы пачаў заваёўваць першыя месцы на міжнародных конкурсах. За кароткі час з групы вясковых дзяўчат пад кіраўніцтвам вопытнага кіраўніка вырас беларускі жаночы ансамбль, які «сваёй народнасцю захапляў слухачоў незалежна ад іх стану ці нацыянальнасці», – пісалі тыя, хто меў шчасце прысутнічаць на яго канцэртах. Тысячы беларусаў, раскіданых па Нямеччыне, адарваных ад роднай глебы, чакалі сваю нацыянальную песню, бо была яна для іх нібы глыток свежага паветра. Думаю, што і для самога Міколы Равенскага сэнсам жыцця на чужыне стала народная песня, якая запала ў душу з ранняга юнацтва і з якой ён не расстаўся да скону.

Збіраць і апрацоўваць народныя песні Мікола Равенскі пачаў, мусіць, у час працы ў Навагрудку школьным настаўнікам спеваў ды рэгентам царкоўнага хору яшчэ перад першай сусветнай вайной. Багаты песенны матэрыял прывозіў з фальклорных экспедыцыяў са Случчыны і Магілёўшчыны. У 1922 годзе выйшаў першы і, бадай, адзіны «Зборнік песень з нотамі» кампазітара Міколы Равенскага, у які былі ўключаныя апрацоўкі народных песень і ўласныя кампазіцыі на вершы вядомых беларускіх паэтаў. Зборнік і да гэтага часу амаль нікому невядомы, як невядома і тое, што многія песні, што лічацца народнымі, маюць аўтара. Так здарылася з шырока вядомай песняй на словы Канстанцыі Буйло «Люблю наш край». І да гэтага часу нідзе не аб'яўлена, што музыку на вершы паэтэсы напісаў кампазітар Мікола Равенскі.

Першымі буйнымі творамі кампазітара была аперэта «Залёты» паводле В.Дуніна-Марцінкевіча і сюіта на словы паэткі К.Буйло «Курган». Ён аўтар «Вялікай сюіты» на беларускія тэмы для фартэпіяна, п'есы «На выгнанні», «Фантазіі» для скрыпкі і фартэпіяна. І ва ўсёй, нават ва ўрачыстай і стрыманай духоўнай музыцы, напісанай М.Равенскім, адчуваецца ўздзеянне беларускага фальклору.

Апошнія тры гады – з 1950 да 1953 года – Мікола Равенскі жыў у Бельгіі, у горадзе Лювене, куды быў запрошаны і кіраваў студэнцкім харавым ансамблем пры Лювенскім універсітэце. З гэтым калектывам ён выступаў у многіх гарадах, і не толькі ў Бельгіі, але і ў Парыжы, і ўсюды канцэрты беларускай песні праходзілі з трыумфам.

Што да асабістага жыцця кампазітара, то і пра апошнія гады даводзіцца пісаць, што былі яны нялёгкімі. Мікола Якаўлевіч цяжка захварэў, музыкай мог займацца, калі боль ненадоўга адступаў... Сям'і ў яго не было, блізкімі людзьмі былі студэнты, якія мелі з ім самыя цёплыя, прыязныя стасункі.

Сярод харыстаў быў і сённяшні вядомы ў замежжы гісторык Янка Запруднік. Прыгадваючы свайго настаўніка, ён адзначае яго самаахвярнасць, вялікую цярплівасць і добразычлівасць Міколы Равенскага, якія ён як сапраўдны інтэлігент і чалавек глыбока веруючы захоўваў да канца дзён.

Памёр Мікола Равенскі ў 1953 годзе. Пахаваны ў Лювене.

Інтэлігенты старэйшага пакалення памяталі Міколу Равенскага яшчэ з даваенных часоў. Так, дзякуючы Васілю Вітку змагла ўбачыць я «Зборнік песень з нотамі», які ён захоўваў доўгія гады, чакаў свайго часу і быў перададзены дачцэ М.Равенскага.

Сама постаць кампазітара цікавіла і Васіля Вітку, і ён пісаў пра яго: «Чамусьці ў нас, беларусаў, надзіва, нетрывалая памяць, як дзіравае рэшата. За якое адно пакаленне нават наша інтэлігенцыя можа начыста забыць, хто што добрае зрабіў для свайго народа. Прыгадваем вершы, спяваем песні, а хто іх напісаў, стварыў музыку, часцей за ўсё, не ведаем». Свой горкі роздум пісьменнік заканчвае словамі: «Нізкі паклон табе, сапраўдны надзвіннік, кампазітар, годны высокай, народнай пашаны». ■

# Фальклорна-этнаграфічны архіў-музей

Ірына ТОЎСЦІК

З 1992 года ў Дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (БДПУ) пачала ствараць калекцыя твораў народнай паэзіі, і сёння тут знаходзіцца адзін з самых багатых і арыгінальных фальклорных архіваў у Беларусі.

Ідэя стварэння архіва належыць Уладзіміру Васілевічу, вядомаму фалькларысту, аўтару трохтомных «Прыкметаў і павер'яў» і іншых кнігаў.

Будучы запрошаным у гэты універсітэт выкладчыкам вуснай народнай творчасці, а таксама этнаграфіі, ён наладзіў збор матэрыялаў, спадзеючыся на старанную дапамогу студэнтаў. Да іспыту па вуснай народнай творчасці дадаецца абавязковае практычнае заданне — збор матэрыялаў па фальклоры, а таксама, па магчымасці, — разнастайных этнаграфічных рэчаў.

Найлепшы «фальклорны» ўзрост сённяшніх носьбітаў вусна-паэтычнай творчасці пачынаецца на восьмым дзесятку гадоў і вышэй. Штогод матэрыялы архіва папаўняюцца дзякуючы першакурснікам, якія збіраюць фальклор у сваіх рэгіёнах, у родных вёсках, што значна спрошчвае задачу, бо далёка не кожны стары чалавек



Фота Ул.ШЛАПАКА

раскрыецца перад чужым чалавекам і тым больш падзеліцца, скажам, такім патаемным жанрам, як замовы.

Усё сабранае студэнтамі на працягу амаль дзесяці гадоў можна размежаваць па трох асобных раздзелах. Гэта, па-першае, занатаваныя на паперы і сістэматызаваныя па жанрах фальклорныя тэксты, сярод якіх пераважае дзіцячы фальклор, любоўныя песні, балады, рамансы і г.д. Агульная колькасць разнастайных тэкставых запісаў – прыблізна каля 100 тысяч адзінак. Другі раздзел складае фонаархіў, у якім налічваецца на дадзены момант 537 аўдыёкасет з фальклорнымі запісамі ў арыгінале.

Трэці раздзел утрымлівае матэрыяльныя рэчы, створаныя ад канца XIX і да сярэдзіны XX стагоддзя: больш за 150 ручнікоў, посцілкі, разнастайныя прылады працы, вялікую колькасць адзення.

Тэкставыя матэрыялы з архіва Педагагічнага універсітэта не ляжаць мёртвым грузам, а час ад часу з'яўляюцца ў друку: у шматтомнай акадэмічнай серыі БНТ (Беларуская народная творчасць) «Радзіны. Абрад. Песні» (Мн., 1998), будуць яны ў томе «Масленіца», які зараз рыхтуецца. Сабраныя студэнтамі тапанімічныя паданні пачалі друкавацца на старонках тамоў серыі «Памяць». Цэлы раздзел склалі студэнцкія запісы ў кнізе «Прыказкі і прымаўкі»(тлумачальны слоўнік) Анатоля Аксамітава (Мн., 2000). За час існавання архіва назапасілася дастаткова матэрыялу, каб выпусціць уласны шматтомнік вуснай народнай творчасці, накшталт акадэмічнага. Пакуль жа на аснове архіўнага матэрыялу ўжо падрыхтаваны для выдання зборнік «Загадкі». ■

# «Вольная сцэна» паўстае нанова

Кірыла ПАЗЬНЯК

Мастацкі кіраўнік тэатра «Вольная сцэна» Валерый Мазынскі, які вечарам 27 студзеня, вяртаючыся з лазні, быў жорстка збіты каля свайго дома па праспекце Машэрава невядомым нападнікам, пасля чаго патрапіў з чэрапна-мазгавой траўмай і паламанай рукой у шпіталь, днямі пакінуў клінічны ложак. Нягледзячы на тое, што ляжаць там яму трэба было яшчэ некалькі тыдняў.

Справа ў тым, што Валерый Мазынскі выпрасіўся ў лекараў дахаты, бо рэжысёру багата што трэба зрабіць да новай тэатральнай пастаноўкі. На 27 лютага на сцэне Купалаўскага тэатра запланаваны паказ першага спектакля ў нядаўна створаным новым тэатры Валерыя Мазынскага. Атрымаць ліцэнзію на стварэнне тэатра дапамог драматург Аляксей Дудараў. Назва добра вядомая – «Вольная сцэна». Цяпер гэта тэатр-студыя пры Саюзе тэатральных дзеячаў.

Прэм'ерай стане дудараўскі «Вечар». Апрача таго, у рэпертуар, як мяркуецца, могуць увайсці калісьці неўпадабаны міністэрствам культуры «Прынц Мамабук», «Павaліўся нехта». Мазынскі хоча паказваць і «Барбару Радзівіл», але досыць дарагія касцюмы да спектакля засталіся



ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, якія там вяртаць не хочуць (НАША СВАБОДА пісала пра справакаваны летась мінкультам раскол гэтага тэатра). На пашыў новых у «Вольнай сцэны», якая пакуль не стала на ногі, грошай няма. Апрача таго, Мазынскі гаворыць пра верагоднасць з'яўлення ў рэпертуары тэатра спектакляў па сучасных украінскіх, нямецкіх і польскіх п'есах. Адмысловыя кантакты на гэты конт трымаюцца, напрыклад, з Інстытутам Гётэ і Польскім інстытутам у Мінску.

Калі прэм'ера пройдзе ў тэатры імя Купалы, то дзе будуць грацца астатнія, яшчэ пэўна не вызначана. Дудараў і Мазынскі вядуць перамовы з шэрагам установаў, дзе маецца сцэна, прыдатная для тэатральных пастановак. Мастацкі кіраўнік «Вольнай сцэны» не сказаў, што гэта за будынак, але паведаміў, што пытанне гэтае мусіць вырашыцца ўжо на гэтым тыдні. Па словах Мазынскага, гаворка ідзе пра доўгатэрміновую арэнду, каб гледачы прывыкалі да «Вольнай сцэны» як да тэатра з пэўнай прапіскай. А рэпетыцыі зараз праводзяцца ў будынку колішняй мінскай рэстарацыі «На ростанях». Між іншым, бліжэйшым часам тут размесціцца новая сядзіба Саюза тэатральных дзеячаў.

Валерый Мазынскі (дарэчы, ён яшчэ досыць слабы, што яго, кажуць, на рэпетыцыі прывозяць і адвозяць) кажа, што «мы ствараем жывы тэатр, які павінен мець у людзей водгук, у тым ліку на сённяшнія рэаліі». Тут нельга не ўзгадаць, што многія спектаклі Мазынскага, як, напрыклад, «Прынц Мамабук» ці «Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць», мелі публіцыстычнае, злабадзённае гучанне, таму не заўсёды падабаліся чыноўнікам. Маюцца вострыя моманты і ў «Вечары», аднак цяпер ужо сітуацыя іншая, бо «Вольная сцэна», у адрозненне ад рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі – тэатр недзяржаўны. ■

ВІТРАЖ

## Эрас прымае зямлянку



У панядзелак амерыканская даследніцкая станцыя паспяхова здзейсніла жорсткую пасадку на паверхню астэроіда Эрас. Апарат правёў у космасе 5 гадоў. Апошні год ён знаходзіўся на арбіце астэроіда. Увесь гэты час *NEAR-Shoemaker* перадаваў на Зямлю розныя дадзеныя вымярэнняў, а таксама фотаздымкі. Калі паліва ў апараце скончылася, *NASA* прыняло рашэнне разбіць апарат аб паверхню астэроіда.

У нядзелю *Shoemaker*, не прыстасаваны для мяккай пасадкі,



пачаў збліжэнне з Эрасам, і ў 22 гадзіны 7 хвілінаў па мінскім часе сутыкнуўся з астэроідам, маючы хуткасць каля 8 кіламетраў у гадзіну. Даследнікі не чакалі, што *Shoemaker* захавае працаздольнасць пасля жорсткай пасадкі, аднак апарат застаўся цэлы і пасылаў на Зямлю адпаведны сігнал. Магчыма ён не стане развітальным. Падчас збліжэння з паверхняй Эраса апарат бесперапынна рабіў здымкі, і цяпер у вучоных аказаліся фотаздымкі беспрэцэдэнтнай дакладнасці. Апошні кадр перад пасадкай зроблены на вышыні 130 метраў. ■

## Чалавек паходзіць ад мухі-дразафілы

У панядзелак аднячасова ў Лондане, Вашынгтоне, Парыжы, Токіо і Берліне адбыліся прэс-канферэнцыі навукоўцаў, якія займаліся расшыфроўкай чалавечага генома. Згодна атрыманых дадзеных, чалавечы арганізм налічвае 30 тысяч генаў. Гэта ў тры разы меней, чым лічылася раней, і ўсяго ў два разы болей, чым, прыкладам, у мухі-дразафілы. Адзначаецца, што за час сваёй эвалюцыі чалавек паспеў памяняцца генамі нават з такімі простымі арганізмамі, як бактэрыі. Аднак адрозненне чалавечага арганізма ад арганізма болей простых істотаў палягае ў тым, што аднолькавыя гены функцыянуюць у іх па-рознаму. Генетычны матэрыял усіх людзей на 99,8% аднолькавы, індывідуальнасць кожнага чалавека забяспечваюць толькі 0,2% генаў.

Былы дырэктар цэнтра Сангера ў Кэмбрыджы Джон Салтстан заявіў, што такая колькасць агульных генаў у чалавека і простых арганізмаў пацвярджае тэорыю эвалюцыі Чарльза Дарвіна. «Фантастычнае пачуццё — атрымаць малекулярнае сведчанне таго, што Дарвін уяўляў як гіпотэзу 150 гадоў таму. Гэта паняцце эвалюцыі як пастаяннай камбінацыі асобных частак», — сказаў Дж.Салстан. Цяпер непрыцелі тэорыі паходжання чалавека ад малпы могуць абвяраць у далёкія продкі любую іншую істоту, прыкладам муху. ■

## ЗША зрабілі эфектыўны мінашукальнік

Прадстаўнікі амерыканскай арміі і кампаніі «СіТэра» паказалі самы новы дэтэктар, прызначаны для выяўлення супрацьтанкавых і супрацьпяхотных мінаў. Мінашукальнік стаў плёнам 15-гадовай сумеснай працы інжынераў і вайскоўцаў ЗША. «Гэта першы прыбор у свеце, які дазваляе знаходзіць выбуховыя прылады ў любым грунце», паведамляе аўтарскі калектыў. Прататып прыбора важыць 3 кілаграмы. Выпрабаванні, якія праводзіліся на працягу пяці гадоў, паказалі яго высокую эфектыўнасць, у тым ліку і для выяўлення неметалічных і пластыкавых мінаў. Сённяшні кошт гэтага мінашукальніка 5—10 тысяч долараў. Для параўнання нагадаем, што кошт тых прыбораў, якія выкарыстоўваюцца цяпер, складае 3—6 тысяч долараў.

Мяркуюць, што ў 2004 годзе гэты мінашукальнік будзе магчыма прадаваць і замежным арміям. Па словах сенатара-дэмакрата Эдварда Кенэдзі, «гэтае высокатэхналагічнае вынаходства палепшыць абарону амерыканскіх салдатаў і спросціць размініраванне, што дазволіць пазбегнуць гібелі тысячаў мірных жыхароў ва ўсім свеце».

У выніку выбухаў супрацьтанкавых мінаў у час вайны ў Персідскім заліве ў 1991 годзе былі параненыя 34% усіх пацярпелых у канфлікце амерыканскіх салдатаў.

Па дадзеных міжнародных гуманітарных арганізацыяў, штогод ад мінаў гінуць на свеце каля 26 тысяч жыхароў розных краінаў, прычым у гэтым чорным спісе — да 10 тысяч дзяцей.

Цяпер, па звестках Дзяржаўнага дэпартамента ЗША, у 70 краінах знаходзіцца ў зямлі ад 60 да 70 мільёнаў мінаў. Найболей ад іх пакутуе насельніцтва Афганістана, Анголы, Босніі і Герцагавіны, Камбоджы, Харватыі, іракскага Курдыстана, Мазамбіка, Намібіі, Нікарагуа, Самалі і Судана. Усяго існуе 350 відаў супрацьпяхотных мінаў. Мінімальны кошт вытворчасці выбуховай адзінкі не перавышае 3 долараў, аднак на яе дэзактывацыю патрабуецца не меней за 1 тысячу долараў. Па ацэнках экспертаў, якія былі зробленыя яшчэ ў 1993 годзе, для поўнай ачысткі планеты ад гэтых выбуховых прыладаў патрабуецца болей за 33 мільярды долараў. ■

## Пікасо і Джэзу растуць у цане

Пяць палотнаў знакамітага Пабла Пікасо былі прададзеныя на аўкцыёне твораў імпрэсіяністаў у лонданскай галерэі «Крысціс» за агульную суму 7,8 мільёна долараў. Самай дарагой аказалася карціна, напісаная іспанскім мастаком у 1942 годзе, — «Бюст жанчыны (Дора Маар)» з выявай адной з каханак майстра. За гэты твор, які знаходзіўся ў швейцарскага калекцыянера, пакупнік аддаў амаль 4,5 мільёны долараў. У пяць разоў меней (834 тысячы долараў) каштавала напісанае ў стылі кубізму ў 1912 годзе палатно Пікасо «Галубка».

А ў Амерыцы вядомы музыкант Роберт Макдафі з дапамогай суполкі сваіх сяброў здолеў набыць за 3,5 мільёны долараў скрыпку, якую зладаваў вялікі італьянскі майстра Гварн'еры дэль Джэзу. Італьянец, які жыў у першай палове 18-га стагоддзя, падпісваў зробленыя ім музычныя інструменты крыжам і таму атрымаў мянушку Хрыстос (па-італьянску — Джэзу). На ўсім свеце захавалася менш за 100 інструментаў гэтага знакамітага майстра.

Скрыпка, якую набыў амерыканец, мае назву «Ладэнбург», на ёй граў яшчэ самы геніяльны выканаўца Нікола Паганіні. З кожным годам кошт інструмента ўзрастае на 10%. На думку спецыялістаў у галіне продажу музычных рарытэтаў, гэтая рэліквія праз 25 гадоў будзе каштаваць не менее 25,7 мільёна долараў. Так што Р.Макдафі і яго сябры вельмі разумна ўклалі свае грошы. ■

# Куда уходит праздник?

Владимир ДОВЖЕНКО

Спортивный турнир, о судьбе которого я предлагаю поразмышлять, действительно уникален: он существует тридцать лет, носит имя лучшего на планете борца двадцатого века, словом, ему нет равных в Беларуси. Речь идет, как вы догадались, о турнире по вольной борьбе на призы трехкратного олимпийского чемпиона Александра Васильевича Медведя, который нынче в 31-ый раз прошел в Беларуси. Бывали когда-то у нас в гостях чемпионы олимпиад, мира и Европы, «отмечались» спортсмены всех стран, где в почете и в силе этот вид спорта. А нынче обвал: в стартовом протоколе мы увидели фамилии атлетов из 14 стран (в три раза меньше, чем в прошлом году), и если учесть, что половина из них наши бывшие сограждане по СССР, то станет ясно – антирекорд турнира состоялся. Отсутствие настоящих звезд лишь усугубило ощущение: что-то здесь не так.

Отчего же случился такой конфуз? Не повторится ли он и впредь? Существует золотое правило: один раз – случайность, два – совпадение, три – закономерность. Официальная версия столь унизительного падения интереса к турниру со стороны мировой элиты неубедительна: подана неудачная заявка на сроки его проведения. Мол, в очень плотный календарь международных соревнований чиновники не смогли втиснуть наш турнир и провести его в более оптимальное время. Вздор! В минспорте (а именно он вместе с горисполкомом курирует соревнования) есть специальные функционеры, получающие неплохую зарплату, в обязанности которых и входит поиск наилучших «окон» для соревнований. Впрочем, этот турнир числится в серии «Гран-при» и стоит на особом учете в ФИЛА. И место его забронировано и расписано заранее. Возможно, он в одночасье вдруг лишился этого статуса? Вряд ли... Официальные представители Международной федерации на турнире присутствовали. Есть еще оправдание: невиданная эпидемия гриппа и карантин. По этой причине впервые в истории соревнований не проводилось несколько финалов. А четверо лидеров нашей сборной вообще были сняты врачом еще до старта. Впрочем, это не повлияло на итоговое выступление белорусских борцов. Три золотые награды (Александр Карницкий, 58 кг., Сергей Смаль, 63 кг., Сергей Борченко, 85 кг.) да еще и «серебро» Николая Савина – разве не успех! Отметим, однако, что бывали и более удачливые годы, когда белорусы выигрывали по пять, а то и семь (1975 г.) первых мест.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Проверка сил, безусловно, пойдет на пользу белорусской вольной борьбе, а удельный вес белорусских спортсменов в нем (45 участников из заявленных 157) дает повод назвать турнир скорее всебелорусским, чем международным. К слову, финал в весовой категории до 63 килограммов получился чисто нашим – Смаль–Савин. Победителем, после довольно ровной борьбы, был назван Смаль, чему он, безусловно, был несказанно рад: свою первую победу чемпион мира одержал здесь же ровно десять лет назад. Могли наши отличиться в этой категории, что называется, по полной программе, не проиграй в схватке за бронзу наш Андрей Шестаков атлету из Южной Кореи.

В то же время в самой престижной категории, супертяжелой, фактическим финалом чемпионата соседней страны стал поединок между россиянами Александром Ковалевским и Андреем Шумилиным. С каким-то гнетущим, тревожным чувством смотрели его специалисты и зрители. Нет, противоборство получилось интересным, хотя, по большому счету, за весь двухдневный турнир ярких, зрелищных поединков было раз-два и обчелся; дело в другом. Помните, Александр Медведь блистал в свое время в тяжелом весе, затем победы приносили нам Леонид Китов, Николай Скрипник, сын Александра Васильевича – Алексей, а в последнее время худо, бедно ли, но здесь честь нашей страны отстаивал Алексей Медведев. И вдруг настало время, когда в «тяжах» нам просто некого выставить, нет приличного борца весом за 130 килограммов. Медведев после неудачи в Сиднее (8-е место) прекратил тренироваться, демонстративно отстранился от сборной, заметно потяжелел и распрощался со спортом. (Проводы Медведева и Олега Гоголя состоялись в последний день.)

В шестой раз в программе основного турнира прошло соревнование «Медвежонок» среди детей 12–14 лет. Причем на этот раз их было в два раза больше, чем мастеров, и сразу из пяти стран. Мало того, финалы у мальчиков и девочек проводились не в каком-то спортзале, а во Дворце, на виду у публики, также в последний день; да и весь ритуал награждения проходил на том же пьедестале!

Честь и хвала организаторам! В Америке юношеский чемпионат США вообще собирает до 15 тысяч участников, так что пределa совершенству нет. Но в скудном меню «Гран-при» даже этот деликатес – «Медвежонок» – показался каким-то нарочитым и непонятным. Кто и что все же главнее? Вот и подумалось: такой могучий поток вскоре может запросто высохнуть. Сегодня – четырнадцать команд приехали на наш самый главный борцовский турнир, завтра и того меньше. Впрочем, куда уж далее.

Вы не задумывались, почему в последние год-два к нам в Беларусь на соревнования или не едут совсем, или едут все меньше. Как-то потихоньку завял международный турнир по пятиборью, недосчиталась звезд *Gallina Blanca*. Но почему? Нету денег, не имеет смысла, а может быть, исчезло уважение? Не к Медведю. К нам. К стране.

Раньше, например, издалека приезжали борцы-иранцы (помню, как они радовались снегу, как дети), а австралийцев и мексиканцев вообще нельзя выгнать было из Дворца спорта.

А сейчас даже немцы отказались, сославшись на какие-то свои соревнования. Об американцах и говорить нечего. Прежде на крыльях мчались, при любом «занавесе», при всякой температуре. Минск, Могилев, Бобруйск помнят захватывающие ристалища сборных (не написал «великих держав», хотя в смысле борьбы они этого одинаково заслуживают. Беларусь была великой борцовской страной и не только благодаря Медведю). А куда подевались «братушки-болгары»? Да разве всех перечислишь?

Однако, будьте здоровы и долгих лет вам, Александр Васильевич, и Вашему турниру! Ведь с каждым годом настоящих праздников – больших и маленьких – у нас остается все меньше и меньше. И не только в спорте. ■



● Финал. 58кг. Дамир Захартдинов (Узбекистан) — Александр Карницкий (Беларусь)



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Финал. 85кг. Сергей Борченко (Беларусь) — Алексей Крупняков (Россия)

КНІГАРНЯ

## Кнігі для студэнтаў, настаўнікаў, вучняў!

Сёння – кніга, па сутнасці, самы танны падарунак, які можна зрабіць сябрам, выкладчыкам, вучням, студэнтам. Тым больш, калі кніга карысная і дапаможа ў вучобе, навуцы, узбагаціць ведамі.

Цікавыя і карысныя ўзоры новай беларускай кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13. Блізка ад метро «Плошча Перамогі»).

Тэлефон кніжнай выставы – **213-43-52**.





«Гісторыя Беларусі» — самы кароткі нарыс (80 старонак) нашай мінуўшчыны і сучаснасці, які сёння існуе. Пры невялікім аб'ёме аўтары здолелі трапна выкласці змест беларускай палітыкі, эканомікі, войнаў, рэлігійных стасункаў, абмаляваць постаці выдатных асобаў і г. д.

Кніга будзе карысная студэнтам, настаўнікам і асабліва вучням, якія здаюць экзамены па гісторыі Беларусі пасля заканчэння 9 класа.

Прыдатная яна і для кожнага, хто хоча хутка азнаёміцца з тысячагоддзем беларускай даўніны за адну гадзіну чытання.





Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №154 Нумар падпісаны ў друк 13/02/2001 (15.00) Наклад — 9.350